Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 32 (4781) 15 жніўня 2014 г.

## Пункцірам

✔ Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ганаровым званнем «Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь» адзначаны старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, выкладчык Гродзенскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў Наталля Парахневіч і галоўны навуковы супрацоўнік навукова-даследчага аддзела Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Рычард Смольскі.

✔ Заслаўе рыхтуецца да Дня беларускага пісьменства. У найбліжэйшыя дні тут будзе адкрыты помнік заснавальніку горада князю Ізяславу. Пасля рэканструкцыі пачнуць працаваць амфітэатр на Цэнтральнай плошчы, школа мастацтваў, Дом культуры, дзіцячы парк культуры і адпачынку ды іншыя аб'екты.

✔ Жараб'ёўка фіналістаў нацыянальнага адбору на міжнародны дзіцячы конкурс песні «Еўрабачанне-2014» і папярэдні прагляд музычных нумароў прайшлі ўчора ў Белтэлерадыёкампаніі. Гала-канцэрт запланаваны на 29 жніўня. У прамым эфіры яго пакажуць «Беларусь 1» і «Беларусь 24». Пераможца прадставіць нашу краіну 15 лістапада ў горадзе Валета на Мальце.

✔ Міжнародны фестываль этнакультурных традыцый «Кліч Палесся» пройдзе 23 жніўня ў аграгарадку Лясковічы Петрыкаўскага раёна Гомельшчыны. Сёлета ён упершыню набыў статус міжнароднага. Да ўдзелу ў форуме запрошаны творчыя калектывы, майстры і рамеснікі з Расіі, Украіны, Малдовы. Сваё майстэрства прадэманструюць гасцям народныя ўмельцы беларускага Палесся ды самадзейныя артысты.

✔ У гэты ж дзень у Смаргонскім раёне каля сцен Крэўскага замка ўпершыню адбудзецца фестываль керамікі. У старажытным мястэчку Крэва, на тэрыторыі якога захаваліся фрагменты знакамітага замка часоў Вялікага Княства Літоўскага, збярэцца каля 30 лепшых айчынных керамістаў. Да ўдзелу запрасілі і ўкраінскіх калег. У праграме — кірмаш адмысловых вырабаў з гліны, рэканструкцыя сярэднявечных баёў, майстар-класы па кераміцы і старажытных танцах, розныя творчыя конкурсы.

✔ Каля 250 нашых суайчыннікаў з Расіі, Украіны, Малдовы, Польшчы, Літвы, Францыі, Аргенціны і іншых краін з'едуцца ў Мінск на фестываль мастацтваў, які адбудзецца 12 — 14 верасня ў межах Дня горада. Праграмай фэсту прадугледжаны пасяджэнне Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа, сустрэча з паэтамі і пісьменнікамі беларускага замежжа ў Нацыянальным гістарычным музеі, адкрыццё выстаўкі «Беларускія мастакі ў свеце» і фотавыстаўкі «Мы — беларусы».

✔ Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі рыхтуе прэм'еру балета «Жар-птушка» Ігара Стравінскага. Упершыню гэта пастаноўка была прадстаўлена знакамітай антрэпрызай Сяргея Дзягілева «Рускія сезоны» на сцэне парыжскай Гранд-Оперы ў 1910 годзе. Балет паводле матываў рускіх народных казак з лібрэта і харэаграфіяй легендарнага Міхаіла Фокіна ў мастацкім афармленні Леона Бакста і Аляксандра Галавіна ўвайшоў у гісторыю рускага і сусветнага мастацтва. У новым тэатральным сезоне спектакль папоўніць рэпертуар Вялікага тэатра Беларусі.

















Фота БелТА




# Пад гармонік — разам!

**Урачыста і велічна прайшоў у Ельску, на Гомельшчыне, VIII рэгіянальны фестываль «Іграй, гармонік!». З розных куткоў Беларусі ды суседняй Украіны з'ехаліся на свята людзі, для якіх народная музыка не проста захапленне — сэнс жыцця! Арганізатары фэсту паклапаціліся пра тое, каб свята атрымалася запамінальным. «Горад майстроў», алея «Палітра жывапісцаў» і вясковыя падворкі «Ельшчына гасцінная» надалі фэсту самабытнасці і адметнага нацыянальнага каларыту.**

А пачаўся фестываль гарманістаў шэсцем калектываў-удзельнікаў па цэнтральнай вуліцы гасціннага Ельска. Вершнікі ў народных гарнітурах, частушачнікі ды гарманісты шчыра заклікалі на свята. Юныя яльчанкі ў нацыянальных строях паднеслі дэлегацыям каравай. Адметнасцю стала выступленне ансамбля народнай песні «Дозвілля» з Жытомірскай вобласці.

Сам конкурс праходзіў на адкрытай летняй пляцоўцы гарадскога сквера. Падчас свята ён ператварыўся ў цэнтр культуры, дзе для кожнага знайшлася забаўка па душы. Працавалі дзіцячыя атракцыёны, праходзілі бяспройгрышныя латарэі…

А ўвечары адбылося ўрачыстае ўзнагароджанне ўдзельнікаў і пераможцаў музычных спаборніцтваў. Паводле старшыні журы, выкладчыка Мазырскага дзяржаўнага музычнага каледжа Аляксандра Шаханіна, вызначыць пераможцаў было даволі складана, бо ўзровень выканання канкурсантаў у параўнанні з мінулым фэстам узрос шматкроць. У выніку Гран-пры фэсту гарманістаў прысуджана Васілю Семашкевічу з Любанскага раёна. Прыз глядацкіх сімпатый атрымалі маленькія зорачкі з Ельска — сёстры-двайняты Паліна ды Ірына Ільіны.

Згадаўшы гісторыю фестывальнага руху гарманістаў, якая пачалася ў 2000 годзе, старшыня Ельскага райвыканкама Леанід Пісанік выказаў спадзяванне, што ў далейшым свята набудзе яшчэ большую папулярнасць!

*Жанна НАЙМАН*

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Сюжэты з жыцця

**Празаік Віктар Праўдзін нядаўна ўганараваны медалём Францыска Скарыны. У творчым арсенале пісьменніка — апавяданні, казкі, нарысы. Але пераважна ён працуе ў жанры дэтэктыва. З чаго ўсё пачыналася? Пра гэта з творцам пагутарыла карэспандэнт «ЛіМа».**



**— Шмат гадоў вы служылі ў праваахоўных органах. Ці не адсюль захапленне дэтэктывамі?**

— Не. З сярэдзіны 1980-х гадоў я пачаў публікавацца ў часопісе «Маладосць». Сваім настаўнікам лічу празаіка Уладзіміра Дамашэвіча. Як афіцэр міліцыі, у адзін вечар мог сустрэцца і з акадэмікам, і з крымінальным аўтарытэтам, і з бамжом. А калі пайшоў у запас і стаў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Нёман», у рукі трапіла кніга аднаго расійскага аўтара дэтэктываў. Прагартаў — жахнуўся: не дай бог прачытаць маім дзецям! Як можна настолькі перабольшваць усялякія жудасці?! Менавіта тады спытаў сябе: а што магу супрацьпаставіць я? I пачаў працаваць над дэтэктыўнай аповесцю, а пасля — пісаць раманы.

**— Што для вас большая асалода — чытаць дэтэктывы ці пісаць іх?**

— Пэўна, пісаць. Бывае цяжка, магу недаспаць, але сапраўдную асалоду адчуваю толькі тады, калі твор скончаны. Так, летась у выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачылі свет кніга «Іду насустрач» і кінараман «Тайны мінскіх скрыжаванняў». Выдавецтва «Вышэйшая школа» выпусціла аўдыядыск з маімі творамі.

**— Існуе меркаванне, што сучаснай беларускай літаратуры бракуе дэтэктываў. Вы з гэтым згодны?**

— Катэгарычна не! Так кажуць толькі тыя, хто іх не чытаў. У кнізе «Карона Вітаўта Вялікага», што выйшла ў «Мастацкай літаратуры» ў 2004 годзе, сабраны творы сучасных пісьменнікаў, якія працуюць у гэтым жанры. У маіх сюжэтах шмат што ўзятае з жыцця. Так, у 1980-я, працуючы старшым участковым, курыраваў тэрыторыю парку Чалюскінцаў, дзе збіраўся клуб «Каму за трыццаць». Напрыканцы кожнага вечара — танцы. Аднойчы адбылася трагедыя: чалавек танчыў — і… раптоўна памёр. Гэты выпадак стаў асновай для рамана «Танцавальны марафон», што разам з шэрагам апавяданняў увайшоў у кнігу «Іду насустрач».

**— Як вам працуецца сёння?**

— Цяпер я жыву ў Глыбоцкім раёне, у вёсцы. Часта бываю ў школах, бібліятэках. Чытачы заўсёды задаюць шмат пытанняў, якія датычаць літаратурнай творчасці, хобі, асабістага жыцця. Значыць, людзі ведаюць і чытаюць мае творы.

**Яна ЯВІЧ**

# Калі ў душы гарыць святло

**Нядаўна адзначыла юбілей член Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніна Кавалёва. А напярэдадні каля яе дома ў Горках адбылося свята двара «Песня на пасашок», якое другі год запар паэтэса арганізоўвае разам з народным аматарскім літаратурным аб'яднаннем «Роднае слова».**

Разынкай імпрэзы стаўся вершаваны аповед Ніны Дзмітрыеўны пра суседзяў, знаёмых, сяброў, пра славутасці мікрараёна. Творчасць Ніны Дзмітрыеўны адзначана граматамі: СПБ — за плённую літаратурную працу, райвыканкама — за вялікі асабісты ўнёсак у развіццё літаратурных традыцый Горацкага краю.

Паэтэса таксама ўганаравана дыпломам I ступені за перамогу ў Міжнародным літаратурным конкурсе «Душа в заветной лире», прысвечаным 215-годдзю з дня нараджэння Аляксандра Пушкіна, і дыпломам удзельніка рэспубліканскага конкурсу творчасці інвалідаў. А ў мінскім выдавецтве «Белпрынт» выйшаў чарговы, дзевятнаццаты, зборнік вершаў і апавяданняў Ніны Кавалёвай «Дзверы міласэрнасці».

Не забываюць пра творцу на малой радзіме — у Дрыбінскім раёне. Бібліятэкар Цемналескай бібліятэкі-філіяла Алена Шавардова распавяла, як захоўваюць літаратурную спадчыну паэтэсы яе землякі.

**Людміла ДЗЕРУЖКОВА, кіраўнік аб'яднання «Роднае слова»**

*Радзіннае*

# Пяром… Якуба Коласа

**Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа прапануе спецыяльны праект «Крочым у школу разам з Коласам», які дапаможа дзецям не толькі цікава і пазнавальна бавіць час, але і псіхалагічна падрыхтавацца да заняткаў.**

У межах васьмі музейных заняткаў хлопчыкі і дзяўчынкі пазнаёмяцца з гасцінным Домам Коласа і творамі пісьменніка для дзяцей, змогуць узяць удзел у інтэрактыўнай гульні «Таямніцы дома Песняра», паглядзець лялечны спектакль па матывах беларускай народнай казкі ў апрацоўцы Якуба Коласа «Як кот звяроў напалохаў».

Дзеці таксама даведаюцца пра гісторыю з'яўлення календара (дарэчы, у Якуба Коласа было хобі — калекцыяніраванне настольных календароў), паспрабуюць стварыць уласную кніжку, «прымерыўшы» на сябе адразу некалькі роляў: аўтара, мастака, рэдактара, карэктара і журналіста. Заданні падчас экскурсіі і майстар-класаў дапамогуць дзецям зразумець, пра што здольныя распавесці рэчы ў мемарыяльным музеі.

На заключным занятку можна будзе напісаць пажаданне на паспяховы навучальны год пяром… Якуба Коласа.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Пра боль мільёнаў

**Сённяшняе пакаленне ведае пра вайну толькі з кніг ды аповедаў старэйшых. Іх веды, думкі, пачуцці неабходна данесці да моладзі, каб яна цаніла жыццё, клапацілася пра мір.**




З гэтай мэтай і была выдадзена кніга «Па праву жывога», якая выйшла ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» да 70-годдзя вызвалення Беларусі. Належыць ініцыятыва Саюзу пісьменнікаў Беларусі, яго першаму сакратару Генадзю Пашкову, чые радкі далі назву кнізе. Дарэчы, першы экземпляр заняў пачэснае месца ў новым музеі Вялікай Айчыннай вайны. Выпуск выдання ажыццёўлены па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

У кнізе «Па праву жывога» трагедыя кожнага чалавека, кожнай сям'і, усёй Беларусі памножана на мільёны. Паўстаюць карціны баёў, спаленых гарадоў і вёсак. Боль — у кожным вершы (на рускай і беларускай мовах) 85 аўтараў з усіх рэгіёнаў краіны. Кніга, паводле слоў яе ўкладальніцы Таццяны Рослік, будзе распаўсюджана па ўсіх айчынных бібліятэках.

**Галіна БАБАРЫКА**




**Калектыўны зборнік твораў беларускіх і мясцовых пісьменнікаў «Пераможцы» выйшаў у Цюмені пры фінансавай падтрымцы ўрада Цюменскай вобласці.**

# Беларускае слова ў Цюмені

Кніга, прысвечаная 70-годдзю Перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй, — сумесны літаратурны праект Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і Цюменскай абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі.

Аўтар ідэі і ўкладальнік беларускай часткі — старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. Укладальнікам тэксту з боку расіян выступіў старшыня Цюменскай абласной арганізацыі Мікалай Дзянісаў.

У кнізе змешчаны публіцыстыка, проза і паэзія сучасных рускіх пісьменнікаў: Яўгена Удавенкі, Сяргея Казлова, Івана Ермакова, Анатоля Кукарскага, Аркадзя Захарава, Барыса Камарова і інш. З беларускага боку прадстаўлена творчасць Алеся Савіцкага, Мікалая Чаргінца, Уладзіміра Карызны, Анатоля Аўруціна, Міколы Мятліцкага, Міхася Пазнякова, Валянціны Паліканінай, Навума Гальпяровіча і г. д.

На пачатку года ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйдзе беларускі варыянт гэтага праекта, які, безумоўна, зробіць важкі ўнёсак у далейшае ўмацаванне сяброўства і супрацоўніцтва паміж народамі Беларусі і Расіі.

**Павел КУЗЬМІЧ**

*Прызма часу*

# Новы медыйны праект

**У Маскве рыхтуецца да выхаду ў свет новы навукова-папулярны часопіс. Адзін з найбуйнейшых выдавецкіх дамоў Расіі — «Панарама» — прыняў рашэнне аб выпуску перыядычнага выдання з назвай «Строительство социализма в СССР: история и современность».**

Пакуль вядома, што галоўным рэдактарам часопіса прызначана Кацярына Шпікалава. Выходзіць ён будзе адзін раз у два месяцы. Агульны памер — 64 паласы. Зразумела, багата ілюстраваныя. Часопіс адрасаваны палітолагам, палітыкам, сацыёлагам, студэнтам, аспірантам і ўсім неабыякавым да гісторыі СССР, Расіі, постсавецкіх дзяржаў.

Тэматыка выдання ахопіць шырокі спектр палітычнага, культурнага, эканамічнага і сацыяльнага жыцця. У новым медыйным праекце выступяць вядомыя дзеячы савецкай эпохі, выбітныя вучоныя і публіцысты. Асноўная задача, на думку заснавальнікаў, — паказаць шматаблічную гісторыю Савецкага Саюза ад моманту стварэння і да пачатку 1990-х гадоў. Пры гэтым акцэнт будзе зроблены на тым лепшым, што здзейснена за дзесяцігоддзі існавання СССР.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Дзень, які не павінен скончыцца

**58 гадоў таму, у панядзелак, 13 жніўня, у 13 гадзін 20 хвілін не стала Якуба Коласа. Ускладанне кветак у Дзень памяці пісьменніка даўно стала традыцыяй. Удзел бяруць не толькі нашчадкі Канстанціна Міхайлавіча, але і яго калегі, нашчадкі духоўныя — беларускія пісьменнікі, навукоўцы, супрацоўнікі музеяў і іншых культурніцкіх устаноў і, канечне, чытачы, якіх багата і сёння.**



Фота Кастуся Дробава

Сёлета 13 жніўня сабраліся сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч, унукі Андрэй Данілавіч і Канстанцін Міхайлавіч, дырэктар літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская і іншыя супрацоўніцы ўстановы, сябар музея Анатоль Гармаза, пісьменнікі Анатоль Бутэвіч, Віктар Шніп, Уладзімір Навумовіч, Вольга Шпакевіч, генеральны дырэктар Белдзяржфілармоніі Аляксандр Гарбар, першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Гілеп, навуковец Сцяпан Лаўшук, шматлікія журналісты і ўсе ахвочыя.

— Калі хто з вас даўно не быў у Доме Коласа, калі ласка, прыходзьце, — запрасіла Зінаіда Мікалаеўна. — У кабінеце пісьменніка мы зрабілі гукавую інсталяцыю — апошні дзень яго жыцця. Вы пачуеце крокі Коласа, калі ён заходзіць у свой кабінет, вяртаючыся з ЦК. Пачуеце зводку навін з любімага радыёпрыёмніка пісьменніка. Потым Колас пойдзе да стала, возьме слухаўку тэлефона і пачне нервова набіраць нумар, але ніхто не адкажа. Ён адчыніць шуфляду, возьме паперу і пачне пісаць… І ўсё гэта — пад ход гадзінніка, які раптам спыніцца.

Музей робіць усё, каб слова Коласа памятала як мага болей людзей, асабліва сёлета, калі самому музею спаўняецца 55 гадоў. А 30 верасня спраўдзіцца яшчэ адзін юбілей — сто гадоў з дня нараджэння Данілы Канстанцінавіча Міцкевіча, старэйшага сына Коласа і стваральніка музея. Да круглай даты будзе прымеркавана адкрыццё тэматычнай выстаўкі.

Міхась Канстанцінавіч зачытаў урывак з паэмы «Развітанне» Генадзя Бураўкіна, пачаўшы з кароткай прадмовы.

— Сталася так, што я ініцыятар напісання трох паэм. Першая, як вядома, — «Міхасёвы прыгоды». Другую, «Апалены золак», напісаў Мікола Мятліцкі пад уплывам маіх успамінаў пра брата Юрку. І трэцяя паэма — «Развітанне» Генадзя Бураўкіна. Яна таксама з’явілася пасля ўспамінаў, што называліся «Пад бацькоўскім дахам» і напрыканцы якіх я прывёў апошні ліст Коласа, адрасаваны ЦК.

Калі добра падумаць, то так ці інакш у кожнага беларуса ёсць успамін, звязаны з імем Якуба Коласа. Прафесар, літаратуразнаўца Сцяпан Лаўшук прыгадаў:

— Гэта было 14 жніўня. Мой дзед, які працаваў на пошце, прыйшоў дадому і сказаў: «Бяда! Бяда — памёр Якуб Колас». І гэта запомнілася на ўсё жыццё… Сюды ж, я ўпэўнены, прыходзяць не толькі ў Дзень памяці, але і ў іншыя дні. Я прыходжу, напрыклад, калі абураюся тым, што вакол мяне адбываецца. Прыходжу — і ўзгадваю, у якіх умовах працавалі нашы папярэднікі. І як добра, што ёсць у нас месца, дзе можна праверыць сябе і свае пачуцці.

**Анастасія ГРЫШЧУК**



# Расстанне назаўсёды

**30 ліпеня 2014 г. на 64-м годзе жыцця пайшоў з жыцця вядомы ўкраінскі пісьменнік, старшыня Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны Віктар Баранаў, добры сябра беларускай літаратуры.**

Нарадзіўся паэт, празаік, перакладчык, публіцыст, літаратурны і мастацкі крытык 14 кастрычніка 1950 года на Палтаўшчыне. Пісьменніцкую супольнасць ва Украіне ўзначальваў з 2011 года. Адначасова быў галоўным рэдактарам літаратурна-мастацкага часопіса «Київ». А яшчэ — віцэ-прэзідэнтам таварыства «Украіна — Румынія». І гэта грамадская пасада — адзнака яго руплівасці на ніве перакладчыцкай дзейнасці, руплівасці ў справе развіцця ўкраінска-румынскіх літаратурных стасункаў.

Шмат Віктар Баранаў зрабіў і для развіцця беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей, асабліва — у апошнія гады. У леташнім кастрычніку ў Кіеве, у памяшканні Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны, прайшла прэзентацыя беларуска-ўкраінскага тома з серыі «Сугучча сэрцаў». У адным з нумароў «Київ» адвёў нямала старонак «беларускаму сшытку» — перакладам з сучаснай беларускай паэзіі і прозы. Дзякуючы Віктару Баранаву цэлы шэраг перакладчыкаў далучыўся да знаёмства з сучаснай беларускай літаратурай.

У адным з інтэрв’ю пра развіццё літаратурных сувязей Віктар Баранаў заўважыў наступнае: «Дружба літаратур існавала заўжды. Вы чулі, каб яны калісьці варагавалі паміж сабою? І я не чуў. Звычайна сіла тае дружбы залежыць ад інтэнсіўнасці ўзаемапранікнення, як і цяжка ўявіць пачуцці без знаёмства... На людскіх узаемаадносінах і трымаюцца цяпер міжлітаратурныя сувязі...» Шмат яшчэ мог зрабіць на ніве прыгожага пісьменства руплівы служка мастацкага слова, чалавек шырокай душы і шчырага сэрца. На жаль, лёс распарадзіўся інакш...

**Павел АЛЬСОВЫ**

*Акцыі*

# Па-сяброўску

**Чарговае мерапрыемства пад эгідай Выдавецкага дома «Звязда» адбылося ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай», ініцыяванай Міністэрствам інфармацыі Беларусі, у дзіцячым аздараўленчым летніку «Дружба», што ў Дзяржынскім раёне.**

Яе Вялікасці Кнізе быў прысвечаны цэлы дзень. Каманды старэйшых атрадаў і выхавацеляў узялі ўдзел у інтэлектуальнай гульні: усе пытанні былі звязаны з пісьменнікамі, выданнямі, бібліятэкамі… А хлопчыкі і дзяўчынкі з малодшых атрадаў малявалі любімых казачных персанажаў.

Прайшла і творчая сустрэча з пісьменніцай Кацярынай Хадасевіч-Лісавой, якая прадставіла свае новыя кнігі: «Казкі Сіняй падушкі», «Код геніяльнасці», «Казкі сівой даўніны». Дзеці не толькі даведаліся, пра што гэтыя творы, але і на свае вочы пабачылі некаторых герояў, якіх аўтар... прывезла з сабой. Кожнаму хацелася дакрануцца да сімпатычнага Пухліка і хоць на імгненне прылегчы на незвычайную Сінюю падушку, якая ўмее расказваць казкі!

Напрыканцы сустрэчы адбылася аўтограф-сесія. Аўтарка адкрыла юным чытачам сакрэт, як трапіць у казку. Зрабіць гэта магчыма… чытаючы кнігу. У падарунак дзеці атрымалі кнігі з аўтографам «Прыгоды Шубуршуна» Алеся Карлюкевіча, «Як Гаўка ў космас збіраўся» Анатоля Зэкава, а таксама зборнікі казак «Куды блінок закаціўся» і «Як Мурлыку ашукалі». Спонсарам выступіла Дзяржынская раённая арганізацыя Рэспубліканскага грамадскага аб’яднання «Белая Русь».

**Кацярына СТАСЕВА**

# Моталь. Новы фэст!

**«Летнік рамёстваў» — такое свята адбылося ў вёсцы Моталь Іванаўскага раёна.**

Новы праект накіраваны на прыцягненне ўвагі да рамяства як віду прадпрымальніцтва.

Многія чулі пра кулінарны фестываль «Мотальскія прысмакі». Летнік — своеасаблівая альтэрнатыва гэтаму фэсту. Новы фармат дазваляе гасцям Моталя ацаніць неабсяжныя грані беларускай культурнай спадчыны — народныя рамёствы і промыслы. Удзельнікамі фестывалю сталі беларускія рамеснікі з розных абласцей Беларусі, гаспадары аграсядзіб, прадстаўнікі мясцовых органаў улады, турысты. «Летнік рамёстваў» праходзіў у межах інфакампаніі «Простыя рэчы» праекта USAID «Мясцовае прадпрымальніцтва і эканамічнае развіццё», які рэалізуецца ў нашай краіне ПРААН у партнёрстве з Беларускім грамадскім таварыствам «Адпачынак у вёсцы» і Міністэрствам спорту і турызму Беларусі.

— У межах праекта створана 17 новых турыстычных дэстынацый, адна з іх — «Мотальскі шлях», які мае вялікі турыстычны патэнцыял, заснаваны на культурнай і прыроднай спадчыне Палесся, — распавяла старшыня праўлення БГТ «Адпачынак у вёсцы» Валерыя Кліцунова.

Рамёствы складаюць значную частку індустрыі турызму ў нашай краіне. Госці ахвотна набываюць адмысловыя работы мясцовых майстроў і тым самым забяспечваюць іх працай, падтрымліваюць мясцовую эканоміку. Унікальнасць народных рамёстваў часта з’яўляецца асноўным матывам для вандроўнікаў пры выбары турысцкай дэстынацыі.

Гасцей «Летніка рамёстваў» чакала разнастайная праграма: майстар-клас «Рамяство ў жыцці вёскі», удзел ва ўнікальных абрадах «Прыданы», «Цыганы», «Убыранне маладой», знаёмства з мясцовымі аграсядзібамі, а яшчэ — стасункі з маталянамі, таленавітымі і ўнікальнымі людзьмі.

**Раіса МАРЧУК**

Ганна АТРОШЧАНКА



## Дарога

Дарога, мусіць, прытаміла,
Сяджу маўклівая зусім.
Сягоння мне нішто не міла,
Бо за плячыма — многа зім!

Вясна таксама не хвалюе:
Ісці з паніклай галавой,
А думка скрушная вандруе
Па той сцяжыне палявой.

Ды час мае не лечыць раны,
І не забылася бяда…
А лёс, дарогай знерваваны,
Бяжыць, як талая вада!

## Парада

Ты не губляй прыгожых мар,
Калі на сэрцы будзе горка.
Убачыш сонца паміж хмар,
Надзея кліча, быццам зорка.

Шукай праменьчык між ялін,
Вітай світанак, дзень і сонца.
Бо ты на свеце не адзін —
Гасподзь твой вечны абаронца!

***

Лёс твой ахутаны тайнай:
Россып слядоў па траве,
Ды на сцяжыне адчайна
Болей ніхто не заве.

І не крычыць певень сонна,
Вецер страху не скубе…
Месяц па раме аконнай
Коціцца ў думнай журбе.

***

Пад жоўтым пакрывалам
Застыў самотны сад…
Тут лета адспявала,
Чаруе лістапад.

І гнуткія галіны
Пакуль не замяло,
Бягуць, бягуць хвіліны
І дораць нам святло.

О, колькі яркіх фарбаў
У сонечныя дні,
Дзе восень паміж барваў
Блукае ў цішыні…

## Навальніца

Гудзела неба давідна,
Маланка рэзала нябёсы,
А дождж туліўся да акна,
Густы, халодны і бялёсы.

Самотна плакала зямля
І адчувала віноватай,
Бо рокат чуўся не здаля:
Грымеў, як бубен,
гром над хатай.

## Брату

Ля помніка ўспомніцца многа:
Загінуў, як знічка, згарэў…
Цябе не хвалюе нічога,
Шуміць толькі вецер між дрэў.

Стаю адзінока над кручай
І плачу адна пад дажджом.
Слязіна здаецца пякучай,
Анёл засланіўся крылом…

***

Хай лёс твой горкі і няўдалы,
Нікога, чуеш, не кляні!
Няхай няма багацця, славы,
Сябе у гэтым не віні.

***

Нам ранавата яшчэ ў вырай!
Спяшацца ў іншы свет не трэба…
Жыццё нам дадзена, як міласць,
Яго цані, як бохан хлеба.

Уладзімір ЦІШУРОЎ



## Свята свету — як свята святла

Свята свету —
як свята святла,
Святло мёду
збірае пчала,
Са святла
той мёд узяла!
Як душа
не знайшла
святла,
не туды ў пацёмках,
брыла.
Забярэ яе цемра
ў радню,
і душа не паверыць
дню.
Ды ўзрадзіцца святла
караню,
і аб тым адно Бога малю.
Я стаю
на мяжы
дабрыні і зла
і шукаю спрадвек святла!

## Да маці на споведзь

Не трэба маці
турбаваць дакорам,
А з бацькоў
карысць спаганяць — сорам.
Сэрца матчына
праўды шукала,
Яе ж крыўда
здавён чакала...
Сэрца матчына
зведала стому
ад сям'і,
ад стараннеяў
па дому...
Думы матчыны
ночы хавалі,
Разам з маці
ні хвілі не спалі.
Застаюцца нам
вечнай спадчынай
Словы, думы
і мудрасць матчына.
Боль трываць
у бацькоўскай хаце
Мы навучаны
мудрасцю маці...
Ці ў Італіі,
ці ў Нямеччыне,
Слова матчына
вешчае, вечнае...
Мы ніколі
не памыляемся,
Як да маці
на споведзь
спяшаемся!

***

Н.

Свечка памяці просіць сілы:
для цябе я зрабіўся нямілы,
для цябе я зрабіўся нялюбы,
Час спыніўся на месцы: разгуб'е...
Час мой хіліць назад у былое,
дзе цяпельца любові жывое,
дзе ўсміхаемся мы абое...
Час глядзіць на ўцёкі водаў,
у нялюб'е яму — прахалода.
Крыўда паліць сэрца агнём,
крыўдай гэтай здаўна жывём.
У тваім сэрцы гняздо нявер'я
згнездавалі злоснікі з пер'я —
Уваўшлі ў шарэнгу няверцаў.
Нетрывушча
самоцішча сэрца...
Калі стрэцца
дзе давядзецца,
адхрысці
ад нявер'я,
сэрца...

Рагнед МАЛАХОЎСКІ



## Абдымкі маленства

***

Мінаюць ночы
і сыходзяць дні…
Чаму не беражэш таго,
што маеш?
Юнацтва засыхаюць
карані,
Калі каханне
першае губляеш.

І нават не задумаўся,
чаму
Дзяўчынка тая
позірк свой хавае…
А ты, як злодзей,
маску нацягнуў
У пошуку душы,
што пакахае.

Рамантык гіне.
Вір жыцця круты...
Імклівага кахання
пульс радзее.
Ды па-над прорвай
хочаш верыць ты:
Былы адчай абернецца надзеяй...

Змяняюцца шляхі
і гарады...
Сысці б на таямнічым
тым прыпынку,
Дзе сціпла, праз шалёныя гады,
З мінулага ўсміхаецца
дзяўчынка.

## Пунсовы ветразь

Ліліяне Анцух

І лёс не заўважае перашкод…
Юрлівы шлях імчыць
насустрач ветру.
Каб зведаць пераможных
больш прыгод —
Між пенных хваль
зіхціць пунсовы ветразь.

Пунсовы — ад агністае зары,
Што сумны небакрай
пафарбавала…
А дзесьці неба больш
так не гарыць —
Выпрабаванні мкнуць
дзявятым валам.

Міне бясконца
пахмурных хвілін
Пад Божым
зацікаўленым паглядам.
І ведае, напэўна,
Ён адзін,
Што будзе
за дрыготкім далягладам…

***

## Адзінота

Мігцяць над светам
цьмяныя агні…
Няшчыры вецер
шэпчацца з лістотай…
Каб жыць і не згубіцца
ў мітусні,
Ратуюся шчымлівай
адзінотай.

Яна блукае між
высокіх сцен,
Што мы ўзвялі,
каб не глядзець у вочы,
Каб не жадаць
у душах перамен…
Ёй добра так.
Інакш яна не хоча.

Загляне ў адзінокае акно,
Што поўнач ветлай
свечкай сустракае.
Акно, нібы душы
замшэлай дно…
Нам сціпла
адзінота спачувае.

Наканаваў быць
разам бурны лёс —
Працейшыя
не разумеем рэчы.
І ранкам, узляцеўшы
да нябёс,
Яна ў прыбой
нырае чалавечы.

***

Куды ў адчаі завядзе самота крокаў?
Лёс у чаканні смелых дзей
Недальназоры.
Там чуцен голас нежывы
Жывых пракрокаў,
Там промень позірку
Нястомна
Пасвіць зоры.

***

Усё жыццё —
халодная вайна…
Узбройваешся
ведамі зямнымі.
І ёсць спадзеў:
не скончыцца яна.
Калісьці веды
стануць «залатымі».

І рушыш у нястомны
вір баёў,
Каб ісціну спазнаць
праз азарэнне.
Каб за сабою ў новы
дзень павёў
Праз поле бою
змену пакаленняў.

***

Юрасю Васілевічу, сябру дзяцінства

Помню Гатавічы. Купалле.
Ля кладоў на агаленым беразе
Мы праз вогнішча дзецьмі скакалі —
І найлепшага шчасця не ведалі.

Злосна вецер хістаў полымя...
Мы ў вачах берaглі тыя іскаркі,
Акуналіся ў возера голымі
І начной захапляліся містыкай.

Помню ўсмешкі дзяўчат. Купалле.
Ноч чарнела вуголля палоскаю...
А сяброўкі нам песні спявалі —
Адгукалася рэха за вёскаю.

Кветку папараці шукалі,
Каб спаткаць сваё шчасце да рання.
Помню зорак над намі каралі,
Што ўжо многім спаслалі каханне.

Лёс не даў у жыцці
нам прапасці.
Свет дарослых
такі ж прамяністы.
Ды ці зведалі
большага шчасця,
Чым агонь трапяткога
дзяцінства?

***

Абдымкі маленства
сціскаюць душу…
На ўзлеску жадана
сарвецца ажына.
Вярніся! Вярніся! —
Адчайна прашу.
І босыя ногі
пазнае сцяжына…

Сустрэнемся там,
дзе блукае жыццё,
Дзе лёгкасцю дзіўнай
напоўняцца грудзі,
Дзе ззяннем вясны
маладзее лісцё,
Дзе штосьці было
і чагосьці не будзе.

І стане блакітным сівы далягляд,
І «снегам» пухнатым
вітаюць тапалі…
Няхай на імгненне —
сустрэўся пагляд,
Што ў сэрцы жыве,
што не вернеш ніколі.

Алена СТЭЛЬМАХ

# Радзіма мне пахне антонаўкамі

*Эсэ*



Узгадваю сваё маленства, калі гляджу праз акно ў бабулінай хаце на старую ліпу, дзе, здаецца, ачмурэлі ад вясны шпакі. Удзень, раскудлачаныя, гойсаюць па ўсёй акрузе, збіраючы розныя пёрцы і саломінкі ў сваё жытло, а ўвечары апантана свішчуць, ціўкаюць, пацяшаюцца. Шпачыны канцэрт — прыкмета ранняй, дружнай вясны.

Я сяджу за сталом і выводжу на аркушы паперы першыя самастойныя літары: «Здрастуйте, папа и мама. Пишит вам Лэна». Разам з бабуліным пісьмом у канверт пакладзём і маё да будзем пільнаваць паштарку Зінку, бо менавіта з яе дапамогай наша карэспандэнцыя трапіць у Дзяржынск. Бабуля строга сочыць за маёй граматай. Яна — настаўніца. Да вайны вучыла вясковых дзетак, зведала нямецкі прыгнёт, калі вораг патрабаваў выкладаць школьную навуку па ягоных правілах. З таго, што першым аднавілася ў вёсцы пасля вайны, таксама была школа — цэнтр вясковай культуры, інтэлігентнасці, беларускасці. Бабулю, Марыю Піліпаўну Сантаровіч, часта ў нас так і называлі — Настаўніца.

У нашых з бабуляй планах — адведаць сваякоў на другім канцы вёскі. Там жывуць дзедавы сёстры — Таня і Аміля. А іх, гэтых шляхоў у госці, — тры, і ў кожнага, як у той казцы, свае перавагі. Адчуць асалоду ад паху скошанай травы, прайсціся каля кудлатых вербалозін, убачыць чысты, як дзіцячая сляза, ручаёк, — крочыць Аселіцай. Пусціцца ў дарогу па Навозах — падзівіцца на агароды клапатлівых вясковых гаспадынь, агледзець роўныя, нібы стрункі, рады бульбы, паназіраць, як бяруцца ў колас палеткі збожжавых. Выправіцца вуліцай — не абмінуць стрэчных вяскоўцаў, таго, хто ідзе ў магазін, па каровы, бярэ ў студні ваду…

Вёска жыве, дыхае. Яна — адно цэлае. І кожны ў ёй навідавоку. Калі хто з чым сам не ў сілах справіцца, абавязкова знойдзецца памагаты. Скажам, адзін дасць каня, другі пойдзе за плугам, капаць бульбу гуртом — спрытней і весялей.

Цёткі нашаму прыходу вельмі рады, але на лаўцы доўга не затрымліваемся. Жыве ў іх сялянская руплівасць. Як быццам нешта падштурхоўвае: не варта марнаваць час. І самі з гумарам кажуць, што ў вёсцы работу ніколі не пераробіш. Нас запрашаюць у хату. Ведаем: без свойскіх пачастункаў не адпусціць. Яны кожны раз аднолькавыя: добры лямец сыру, толькі што вылупленага з клінка, збанок малака, амаль палову якога займаюць адстоеныя вяршкі. Айсбергам, што патануў у місцы са смятанай, выглядае ладны кавалак тварагу… Колькі б гэта ні смакаваў, не прыесца, не зашкодзіць. Карова заўсёды на вёсцы была карміцелькай. Збывалі яе гаспадары толькі пры поўнай нямогласці.

Помню, як уранні мужчыны ішлі на стальмашню, каб цягнуць нумаркі на дзялянкі сенажаці, якімі загадваў мясцовы брыгадзір Алёшчык. Майстрам накляпаць касу быў дзед Юзік. Крыху пазней падзялілі на сенакос травяністы саўгасны сад. Вяскоўцы адзін перад адным стараліся хутчэй скасіць траву, убраць сена. Едзе воз — быццам адна велізарная капа рухаецца. Вясной адведзены рад пладовых дрэў кожны абразаў, бяліў.

Другім разам бабуля прапануе схадзіць яшчэ далей. Даўно не бачылася са Стэфкай Доменікавай. Прозвішча яна, безумоўна, мела другое. Але так, па-мясцоваму, зручней і больш зразумела. Бабулі абмяркоўваюць сваё, а мяне здзіўляе, як гэта паважная жанчына можа жыць у хаце з земляной падлогай. Тое самае і ў хаце Манькі Амілінай. Пабудова да таго ж адным краем страхі прытулілася да зямлі. Бабулю сюды цягне, бо, як толькі прыехала ў вёску, кватаравала ў Маньчынай маці.

Саму Маньку лічаць дзівачкай. Яна і нам кажа: прыкладзіце вуха да зямлі, пачуеце, як у глыбіні спяваюць людзі. А можа, яно насамрэч так і было, толькі не кожны мог спрычыніцца да гістарычных таямніц. Нездарма ж з’явіліся легенды і пра нешчаслівае каханне, і пра царкву, якая патанула.

Хутка на канікулы з Магілёва прыедзе мая стрыечная сястра Эла, і ў нас пачнецца жыццё сапраўдных рабінзонаў. Найперш пададзімся ў аселіцу, дзе лопухі ствараюць мясцовыя джунглі. Пабегаць паміж імі ў даганялкі, а потым знайсці самыя вялікія лопухавыя лісты, каб пафарсіць у іх, — выдатны пачатак летняга адпачынку.



Фота Кастуся Дробава

Потым даследуем так званы Замак, бо там заўсёды паспяваюць першыя суніцы. Абшнырым Курнік. Нам цікавы яго раслінны свет. Лісцікі, кветачкі будзем старанна засушваць, каб да школы падрыхтаваць змястоўны гербарый. Прылаўчыліся зрываць галінку, ачышчаць яе ад лісця і кары і засоўваць у мурашнік. Мурашы тут жа аблепліваюць наш колік, аздабляючы яго сваёй кіслатой. Смачней за любы «чупа-чупс» быў той прыродны ласунак. У рэчцы пад камянямі навобмацак ловім гаркушак. А бывае, цапнем і жабу, якая сцішылася на дне.

Сёння — нагода наведацца ў Сцюдзянец. У бабулі Амількі дрэнна са зрокам, трэба прынесці ёй крынічнай вадзіцы. Яна прамывае вочы, лічыць ваду гаючай.

Адважымся і на больш далёкае падарожжа: у Васюцкі лес. Тут трэба знайсці смалякі — такое гэтым разам атрымалі ад бабулі заданне. Імі добра распальваць печ. Але замест таго натыкаемся на тушу мёртвага каня і ляцім ад страху са свістам у вушах. Больш у той бок — ні нагой!

Прага нязведанага ўсё ж не пакідае нас, і таму, памяняўшы маршрут, даследуем камяні на могілках, што за вёскай. На адным з іх выбіты лічбы: «1868 год». І нават нашы бабулі, якія нарадзіліся ў пачатку XX стагоддзя, не могуць патлумачыць, хто тут пахаваны.

Пачатак вёскі, дзе хата маёй бабулі, вабіць не менш змястоўнымі забавамі. Тут лес — і гэтым усё сказана! Ён велічны і магутны. Дарогу ў «зялёны храм» адкрыла для мяне мая цётка Зоя. Цяпер думаю: колькі ж за гэты час нам удружылі сваіх дароў урочышчы Шуркі, Кудра, Залаўкі! Канаўкам — асобныя дыфірамбы! Кожны, хто б ні ішоў па іх, свой грыб падымаў. Ахоўваў усе гэтыя лясныя багацці вельмі паважаны ў вёсцы чалавек — ляснік Уладзімір Іванавіч Гармаза.

Звычайна ўвечары ці то мы з бабуляй ідзём да каго пагуляць, ці то да нас «на вячоркі» прыходзяць жанчыны. Частая дарога да суседкі праз сцяну — Манечкі. А палове дзясятай па радыё гучаць «Вячэрнія зарніцы». Яны як сігнал для гаспадыні. Са збанка налівае па кубку малака, і мы смакуем яго з чорным хлебам. Днём раней Манечка з Мішачкам былі ў нас. Глядзелі чарговую серыю фільма «Адъютант его превосходительства». А яшчэ ў Навасадах фурор, калі паказваюць фігурнае катанне. Я раблю сваё рэзюмэ: «О не, катацца адна не буду, толькі з мужам». Старыя з мяне кпяць.

У доўгія асеннія вечары асабліва любім з бабуляй пайсці да Яські Каробачкі і яго жонкі Стэфкі, да Юзэфы і яе мужа Каменданта, да Гармазовых, Гуцянкавых, Андрачыкавых…

Нас наведваюць Андрэіха, Дзяткоўская, Якубіха, Наста, Коліха. Люблю слухаць іх успаміны пра даўніну, як жылі ў вайну. Многа гавораць пра Ракаў, як ездзілі туды на кірмаш, куплялі муку і адрэзы на сукенкі. Для мяне ён міфічна далёкі і загадкавы, гэты Ракаў. Пад сталом, за якім ідзе гамонка, стаіць скрыня з антонаўкамі, і пах іх, здаецца, адчуваю і зараз.

Самыя добрыя ўспаміны — пра сяброў свайго дзяцінства: Аню Падабед, Люду Веркавіч, Сашу Сантаровіча, Жанну Тарайковіч, Лену Сантаровіч, Аксану Шышкавец. Помню і суседскага хлопчыка Сярожку Дзятко, жыццё якога знесла бурлівая плынь вясновай ракі. Вельмі шкада было і Васю Мялюка, які трагічна загінуў у Мінску.

А калі прыйшла пара юнацтва, кола знаёмстваў з вясковай моладдзю пашырылася.

* * *

Вёска. Тут самыя буйныя росы, самыя яркія зоры, самыя галасістыя салаўі… Родны кут, мілы, любы, дарагі. Хочацца быць бліжэй да яго, «каб не страціць святое штосьці»… Адсюль ідуць нашы карані, якія сплятаюцца ў агульнае дрэва беларускай нацыі. Тут вытокі нашай талерантнасці, памяркоўнасці, працалюбства, гасціннасці.

Чым далей азіраюся ў мінулае, тым больш шчымлівым становіцца адчуванне таго, што Навасады страцілі дадзены ім гісторыяй шанц быць вясковым цэнтрам. Сёння цяжка ўявіць, што быў такі Навасадскі сельсавет, а сама вёска нават утварала калгас.

Як цяпер бачу будынак малочнай у самым пачатку вёскі, трошкі далей з правага боку — стайня, вышэй на гары — пабудовы вялікай сельгаспадаркі. Тут і склад для насення, і зерняток, і стальмашня, і сховішчы для сена, і кароўнік з цялятнікам. Калі павярнуць у вёску, з правага боку — свірны. А ў цэнтры — цэлы сацыяльны комплекс: школа, пазней перароблена пад магазін, клуб з бібліятэкай, ля клуба — нацягнутая сетка для гульні ў валейбол, ФАП, крыху ніжэй — лазня. Тут біўся пульс вёскі, жыццё віравала ў розных яго праявах. І былі Навасады на той час няйначай як сучасным аграгарадком.

Навасадскія могілкі. З якога боку ні паглядзі, яны перад табой. Здаецца, адтуль, з пагосту, нашы прадзеды нябачна аберагаюць вёску. Іду па могілках. Колькі на помніках знаёмых твараў! Кожны варты напісання асобнай кнігі. Памяць пра землякоў множыць мае сілы.

Цяпер вёска ўсю халодную пару года дакорліва паглядае сумнымі вокнамі-вачыма. Сёлета ў ёй зімавала ўсяго шаснаццаць жыхароў. Але зноў прыходзіць вясна. Вяртаюцца з выраю шпакі, распускаюцца дрэвы, ідзе бярозавік, у зеляніну апранаецца Курнік, які аздабляюць кусты беласнежнай чаромхі. Я еду ў Навасады, да сваёй крынічкі…

**Прапануем вашай увазе агляд развіцця беларускай дзіцячай літаратуры ад даўніх часоў да сучаснасці, ад першых друкаваных кніг да найноўшых твораў, ад Скарыны да фантастаў XXI стагоддзя.**

# Шэсць стагоддзяў дзіцячай літаратуры


*Першыя казачнікі Беларусі Змітрок Бядуля і Якуб Колас.*


*Уладзімір Караткевіч вядомы і як дзіцячы аўтар.*


*Янка Маўр — пачынальнік прыгодніцкага і фантастычнага жанраў.*

## XVI — XVIII

На Беларусі ўзнікае кнігадрукаванне, дзякуючы якому з'яўляюцца вучэбныя кнігі. Першым стаў «Псалтыр» Францыска Скарыны («Детям малым початок всякое доброе науки…», 1517 г.). А ўжо ў наступным стагоддзі бярэ свой пачатак і беларуская дзіцячая паэзія, зараджэнне якой звязана з імем Сімяона Полацкага; ён жа ў Маскве выдаў падручнік для дзяцей «Букварь языка славенска».

У XVIII ст. на тэрыторыі Беларусі ўзнікае батлеечны тэатр, а разам з ім і такія драматургічныя творы, як школьная драма, маралітэ, камедыя і інтэрмедыя.

## XIX

Беларуская дзіцячая літаратура — зрэшты, як і ўсякая літаратура, — бярэ вытокі ад фальклору, а менавіта ад фальклору дзіцячага з яго казкамі, калыханкамі, дзіцячымі гульнямі, песнямі, лічылкамі і г. д.

Запісы дзіцячага фальклору пачалі рабіць у першай палове XIX ст. — гэта былі работы Яна Чачота і Аляксандра Рыпінскага. Таксама варта адзначыць работы П. Шэйна, Е. Раманава, М. Федароўскага, У. Дабравольскага.

Вельмі папулярным у XIX ст. быў збор беларускіх народных апавяданняў і казак Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». Гэты твор прыцягвае фантастычнымі ды містычнымі сюжэтамі і сучасных беларускамоўных юнакоў, якія захапляюцца фэнтэзі.

Пасля паўстання 1863 — 1864 гадоў значна пагоршыліся ўмовы развіцця беларускай літаратуры: кнігадрукаванне было спынена, прадстаўнікі царскай улады праводзілі русіфікацыю краю. Беларускі верш загучаў на нашай зямлі толькі ў канцы XIX ст. — з-пад пяра паэта-дэмакрата і асветніка Францішка Багушэвіча, які сцвярджаў неабходнасць стварэння кніжак для дзяцей на беларускай мове. Творчасці гэтага пісьменніка была ўласціва сувязь з народным фальклорам, што прыкметна ў вершы «Калыханка».

## XX

Пачынаецца перыяд нацыянальна-культурнага адраджэння беларускага народа: адкрываюцца нацыянальныя школы, легалізуецца беларускі друк, выходзіць першая кніга для навучання дзяцей на беларускай мове «Беларускі лемантар». У 1909 годзе пабачыў свет вершавана навучальны дапаможнік «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» Якуба Коласа. На пачатку сваёй творчасці Колас таксама звяртаўся да фальклорных матываў, пра што сведчыць яго павучальная казка «Дзед і мядзведзь» (1918 г.). Закрануў фальклорны матыў і Максім Багдановіч у казцы «Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык» (1915 г.), а Вацлаў Ластоўскі надаваў вялікую ўвагу пытанням школьнага навучання («Родныя зярняты», 1915 г.; «Незабудка» — першая пасля лемантара чытанка», 1918 г.; «Сейбіт» — другая пасля лемантара чытанка», 1918 г.).

## ПЕРЫЁДЫКА

У 1914 годзе выйшаў першы нумар беларускамоўнага часопіса для дзяцей і моладзі «Лучынка», які адкрываўся аднайменным вершам Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Асветніцкая дзейнасць Цёткі адыграла значную ролю ў станаўленні літаратуры для дзяцей. Яна пісала вершы для дзяцей («Першае чытанне для дзетак беларусаў», 1906 г.), закранаючы фальклорную тэматыку. Алаіза Пашкевіч стала пачынальніцай навуковай белетрыстыкі для дзяцей і публікавала артыкулы на старонках часопіса «Гутаркі аб птушках».

На пачатку 1920-х гадоў выходзяць першыя пасля рэвалюцыі беларускамоўныя выданні для дзяцей: часопіс «Зоркі» (1921 — 1922 гг.), «Беларускі піянер» (1924 — 1929 гг.), газета «Піянер Беларусі» (з 1929 г.). На тэрыторыі Заходняй Беларусі пад рэдакцыяй Зоські Верас пачынае выходзіць часопіс «Заранка» (1927 — 31 гг.), на старонках якога друкуюцца А. Гарун, К. Буйло, Я. Колас, М. Машара і інш.

## ТЭОРЫЯ

У 1931 годзе быў апублікаваны артыкул Алеся Якімовіча «Праблемы сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры», у якім адзначалася, што тагачасныя аўтары ігнаруюць інтарэсы маленькіх чытачоў. Алесь Якімовіч выдаў першую ў беларускай савецкай дзіцячай літаратуры вершаваную азбуку «Слухай — запамінай» (1948 г.).

Завастраў увагу на значнасці дзіцячай літаратуры і Якуб Колас, які казаў пра тое, што дзяцей змалку трэба прывабіць кнігай, выклікаць у іх устойлівую цікавасць да чытання. Пра нешта падобнае пісаў і В. Вітка, які казаў, што далучаць дзяцей да роднай мовы трэба з першых дзён навучання, праз гульню. Якуб Колас упершыню ў беларускай літаратуры паспрабаваў распрацаваць жанр юнацкай аповесці («На прасторах жыцця», 1926 г.). Акрамя таго, ён быў тэарэтыкам дзіцячай літаратуры, а традыцыі яго майстэрства слова выкарыстоўваюцца і ў нашы дні.

Пакінулі яскравы след у дзіцячай літаратуры Янка Маўр («Палескія рабінзоны», 1930 г.) і Міхась Лынькоў («Міколка-паравоз», 1936 г.). На развіццё казкі паўплывалі А. Якімовіч («Каваль Вернідуб», 1935 г.), М. Лынькоў («Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў», 1935), З. Бядуля («Сярэбраная табакерка», 1940 г.).

Багата дзіцячых вершаў пісаў Янка Купала, які нярэдка выкарыстоўваў і фальклорныя матывы (верш «Дзіцячае»). Заклаў фальклорную аснову ў свае п'есы і Віталь Вольскі («Цудоўная дудка» і «Дзед і жораў», 1939 г.).

Вельмі значную ролю адыграў Янка Маўр, чыя аповесць «Чалавек ідзе» (1926 г.) дала пачатак фантастычнаму і прыгодніцкаму жанрам у беларускай літаратуры. Маўр казаў, што беларускім пісьменнікам трэба клапаціцца пра тое, каб дзеці, калі вырастуць, маглі сказаць, што ўсім добрым яны ўдзячны кнігам.

У ваенныя гады і дзіцячая, і дарослая літаратура адрозніваласа патрыятычнай накіраванасцю. Гэта бачна ў вершах Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык на вайне», апавяданні Алеся Якімовіча «Піянер Геня», зборніку вершаў Эдзі Агняцвет «Міхасёк». Але і ў пасляваенныя гады пераважае такая тэматыка. Варта адзначыць кнігу, складзеную Янкам Маўрам разам з Пятро Рунцом па пісьмах-успамінах дзяцей, якія перажылі тыя цяжкія гады, — «Ніколі не забудзем» (1948 г.).

У пачатку 1950-х гадоў яшчэ назіраецца ваенная тэматыка, але ўжо прасочваецца скіраванасць на мірнае жыццё. Ідзе распрацоўка школьных тэм — «Добры дзень, школа» Янкі Брыля (1953), «Заўтра ў школу» Алены Васілевіч (1956).

Звяртаецца да мінуўшчыны і набыткаў фальклору на пачатку сваёй творчасці Уладзімір Караткевіч, пра што свед-чаць яго «Казкі і легенды маёй Радзімы» (пісьменнік выдатна разумеў вялікую ролю казкі), а таксама казка «Лебядзіны скіт» і зборнік «Казкі» (1975 г.). Пісьменнік успрымаў фальклор як духоўны скарб народа, шмат займаўся яго вывучэннем.

Безумоўна, каштоўны ўнёсак у дзіцячую літаратуру зрабіў адзін з заснавальнікаў часопіса «Вясёлка» Артур Вольскі, які на працягу 1980 — 1990-х гг. напісаў даволі шмат кніг для дзяцей. За сваю кнігу «Карусель» (1996 г.) у 1997 годзе ён быў узнагароджаны званнем лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра. Лаўрэатам гэтай прэміі ў беларускамоўнай дзіцячай і падлеткавай літаратуры стаў яшчэ адзін пісьменнік, звязаны з «Вясёлкай», — Уладзімір Ліпскі («Пра Андрэйку Добрыка і чорціка Дуроніка», 1993 г.; «Каралева белых прынцэс», 2000 г.).

Дзіцячая літаратура савецкага перыяду — важная частка нацыянальнага пісьменства. І прыемна, што і новы час у гісторыі Беларусі ўносіць свой неацэнны ўклад у гэтую скарбніцу.

## XXI

У нашым стагоддзі загучала імя Алеся Бадака, які выступае актыўным прапагандыстам дзіцячай літаратуры і з'яўляецца адным з арганізатараў клуба дзіцячых пісьменнікаў. Ён піша багата вершаў, аповесцей, казак, пазнавальнай літаратуры. Пісьменнік стаў лаўрэатам прэміі «Залаты купідон» за найлепшую кнігу («Расліны: батанічныя эцюды», 2008 г.) у намінацыі «Публіцыстыка».

Сістэму маральна-этычных каштоўнасцей пакалення «next» раскрывае Вольга Гапеева ў аповесці пра школьнае жыццё «Пастка на рыцара» (2002 г.). За казачныя гісторыі «Сумны суп» Гапеева ў 2013 годзе стала лаўрэатам прэміі імя Янкі Маўра.

У своеасаблівай манеры піша казачніца Алена Масла, творы якой адрозніваюцца прытчавасцю і займальным сюжэтам («Каляды з хроснай», 2005 г.; «Пацучок Фэлік падарожнічае», 2013 г.). Арыгінальная і кніга Аксаны Спрынчан «Таташ Яраш, мамаха Аксана, дачка Альжбэта. Поўны эксклюзіў» (2013 г.), якая вучыць юнага чытача прыслухоўвацца да беларускіх слоў, знаходзіць у іх схаваныя сэнсы і сугуччы.

З 2012 года выдаецца прыгодніцка-фантасмагарычная трылогія Людмілы Рублеўскай пра вучня Мінскага езуіцкага калегіума Пранціша Вырвіча — «Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега», «Авантуры студыёзуса Вырвіча».

Значных поспехаў дасягнулі некаторыя нашы літаратары і па-за межамі Беларусі — гэта рускамоўныя пісьменнікі Вольга Грамыка, Андрэй Жвалеўскі, Яўгенія Пастарнак.

**P. S.** Выдатна, што цікавасць да беларускай дзіцячай літаратуры актуальная і ў нашы дні, і цешыць, што з прыходам у літаратуру новых імёнаў толькі павялічваецца яе жанравасць, разнапланавасць сюжэтаў: з'яўляецца больш коміксаў, твораў фэнтэзі і навуковай фантастыкі. Усё гэта дазваляе забяспечыць патрабаванні сённяшняга кніжнага рынку. І немалаважна, што разам з тым сучасныя беларускія пісьменнікі імкнуцца захаваць стыль і духоўныя традыцыі беларускіх класікаў.

**Алег ГРУШЭЦКІ**

# Бацькі, запамінаем назвы!

**Выдавецкі дом «Звязда» працягвае серыю дзіцячых кніжак «Вясёлы калейдаскоп».**







Вершыкі Яніны Жабко, сабраныя ў кнізе «Самая родная», выразна, нават падкрэслена музыкальныя. На такі эфект працуюць шматлікія паўторы і адмысловы рытм. Зрэшты, іначай быць і не магло: спадарыня Яніна — кампазітар і аўтар песень (перамагла ў конкурсе пецярбургскага часопіса «Музыкальная палитра» ў намінацыі «Песні»), да таго ж выкладае музыку і спевы ў школе. Да яе немудрагелістых тэкстаў можна лёгка падабраць мелодыі. Даўней па вечарах ладзілі сямейныя спевы; чаму б не заняцца гэтым і цяпер — у процівагу медытацыі перад тэлевізарам? Так, зборнік «Самая родная» (заўважым, што ён рускамоўны) можна выкарыстоўваць у мэтах самых празаічных: ад крыніцы тэкстаў для сямейных свят да ўрокаў музыкі ў школе.

Яшчэ адна вызначальная рыса кніжкі — зрэшты, рыса традыцыйная і неад'емная для дзіцячай літаратуры — павучальнасць. Часам яна ўдала замаскіраваная за дзіцячым маналогам: так, героі вершыкаў, дзеці, самі ж распавядаюць, як яны дапамагаюць бацькам, як цудоўна сябе паводзяць — і робяцца прыкладам для чытача; іншым разам аўтарка пераступае мяжу натуральнасці, але здараецца гэта рэдка, можна сказаць, у якасці выключэння. Ва ўсіх тэкстах выразна прасочваецца жаданне педагога (спадарыня Яніна вось ужо 35 гадоў, як настаўнік) сацыялізаваць маленькага чалавека, патлумачыць і прышчапіць яму нормы грамадства. У гэтым няма нічога благога, калі дзіця акрамя кніг такога роду будзе чытаць, скажам, «Шкодныя парады» Остэра. Жыццярадаснасць і фантазія не павінны чэзнуць.

«Тры медалі, або Хто паедзе на Алімпіяду» — выдатны твор; зрэшты, іншага ад Віктара Ляскоўскага чакаць не даводзіцца. Нагадаем, што спадар Віктар друкуецца ў дзіцячых часопісах «Святлячок», «Мишутка» і «Мишуткины сказки», выдаў паэтычныя зборнікі для дзяцей «Дзе жывуць кенгураняты», «Вершы пад ёлку», «Рознакаляровыя вершы», а таксама «Казкі і загадкі», казачныя аповесці «Шчаня Дэнік і яго сябры», «Новыя прыгоды шчаняці Дэніка», «Казкі вясёлай мурашкі». Мы нездарма далі пералік яго твораў: калі ласка, запамінайце назвы, шаноўныя бацькі, — прыдасца.

Пісьменнік не становіцца ў ментарскую позу за высокую, вышэйшую за саміх дзяцей, кафедру. Не пачынае нудна павучаць, дакараць, ставіць у прыклад сябе самога ці іншых дзяцей — дзяцей сціплых, пакорлівых, маўклівых, працавітых, старанных і, безумоўна, прыдуманых дарослымі, якія самі такімі ніколі не былі. Спадар Віктар не робіць яшчэ шмат чаго, што рабіць не трэба.

Ён расказвае вясёлыя гісторыі, расказвае з неадменным гумарам, часам — тонкай іроніяй, якая, быць можа, застанецца незразумелай малым, але іх бацькі абавязкова ўсміхнуцца ў адказ аўтару.

Гэтым разам аповед вядзецца пра лясное спаборніцтва:

*Бежит козёл*
*За волком,*
*Волк мчится*
*За лисой.*
*А следом*
*По пригоркам*
*Прыгает косой.*
*Бегут бобёр,*
*Енот и крот,*
*И ёж,*
*И камышовый кот...*

Ролю суддзі даверылі мядзведзю — бо ён умее свістаць у свісток (тут мужчыны, якія глядзелі сёлетні Чэмпіянат свету па футболе, прыгадаюць многія горкія моманты і не аднаго «мядзведзя»). Падчас бегу многія звяры трапляюць у складанае становішча, але на дапамогу ім прыходзяць сябры, і толькі Воўк, які пахваляецца неіснуючымі медалямі, пасміхаецца. Але мы з вамі ведаем, хто смяецца апошнім.

Застаецца толькі пажадаць, каб творы Віктара Ляскоўскага былі сабраныя пад адной вокладкай і выдадзеныя як мага хутчэй.

**Настасся ГРЫШЧУК**

# Смяшынкі на мяккіх лапах

**Жывёлы, птушкі, дрэвы і расліны ажываюць у кнізе Васіля Зуёнка «Запішыце мяне ў мядзведзі», якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» і стала часткай дзіцячай серыі «Жураўінка». Паэт вельмі любіць прыроду з яе натуральнай прыгажосцю, шчырасцю, чысцінёй фарбаў і гукаў. Абвостранае адчуванне навакольнага свету, уменне заўважаць цудоўнае і незвычайнае ў штодзённым жыцці аўтар перадае маленькім чытачам у сваіх вершах.**




«Ціха грывай трасяне / Конь рахманы — вецер, / Цягне хмарку на спіне, / Сыпле дождж дзецям», — гэтымі радкамі з твора «Як расцём» пачынаецца кніга, а ў свядомасці адразу ж успыхваюць яркія вобразы. Вось яна, магічная сіла метафар, якімі Васіль Зуёнак валодае ў дасканаласці і малюе цэлыя галерэі карцін. Спелыя суніцы ў яго пераўтвараюцца ў «цёплыя смяшынкі, сонечныя дочкі, збаблівыя вочкі» і «гарась чырвоным ззяннем». Ручаёк, «непаседа-весялун, гаманлівы булькатун», які збег «з вясёлай хмаркі, што ляцела шпарка», люляе караблікі на вадзе. Легкадумная «пястушка-весялушка» страказа гуляе цэлымі днямі, не заўважаючы небяспек і турбот. Кацяня вучыцца катацца на каньках, але сутыкаецца з няўдачай: «Быццам сто ў яго тых ног / І пад кожнай сто дарог! / І з якой пачаць нарэшце, / Сам ніяк не разбярэшся. / Запытацца трэба ў таты — / І пабег каток дахаты…». Здаецца, што кожная прыродная з'ява ці істота кагосьці нагадвае… Зразумела ж, дзяцей! Непаслухмяных, вясёлых і вельмі цікаўных хлопчыкаў і дзяўчынак.

Навошта слану такія вялікія вушы, хобат і ногі? Ці праўда, што куракчы прымаюць ванны з цёплага пяску замест празрыстай вады, чаму парсючок качаецца ў брудзе? Вершы, апранутыя ў лёгкае футра з добрага гумару, простага рытму, запамінальных, але не надакучлівых матываў дапамагаюць дзецям адказаць на многія пытанні і не чапляцца да мамы і таты з вечным «чаму?».

Некалькі твораў прысвечана розным ласункам, прычым, прадукты, зноў жа, надзелены чалавечымі рысамі і пераўтвараюцца ў персанажаў з цікавымі характарамі і звычкамі. Пірагей Абаранкавіч у Васіля Зуёнка важна сядзіць за адным сталом з Халвой Шакаладаўнай, а побач — не менш каларытныя Цыбуля Часнокаўна, Кавуній Гарбузавіч, Памідор Агурэвіч… Дарэчы, верш «Частаванне» можна раздрукаваць і павесіць на кухні як памятку для дзетак, якіх трэба прымушаць садзіцца за стол і есці бабулін суп ці кашу. Добрая ўсмешка спрыяе апетыту! «Аж надзьмуўся пірог: / Пець стараецца за трох! / А смяшлівыя аладкі / Дружна пляскаюць у ладкі», — не менш гарэзлівыя радкі, якія падымаюць настрой, можна знайсці ў вершы «Імяніны».

Не абмінае паэт і «класічныя» для дзяцінства тэмы: хлопчык вярнуўся дамоў з двойкай у дзённіку, яго таварыш увесь час марыць пра сапраўдную ракету і падарожжа на Марс...

Завяршаецца выданне творам «Як дазнаўся». Менавіта гэты верш дапамагае расшыфраваць арыгінальную, крыху іранічную, займальную назву кнігі. Аказваецца, маленькі Вова жадае запісацца ў мядзведзі, бо зверу ўсё дазволена: не мыцца, спаць усю зіму, есці толькі салодкае, як правіла, маліну ды мёд.

Ілюстрацыі да кнігі, створаныя Рытай Цімохавай, захапляюць рэалістычнасцю, дазваляюць дзецям імгненна ўбачыць навакольны свет у іншым, казачным, святле.

**Марыя ВОЙЦІК**

## *Нататкі чытача*

# Чалавек будучыні

**Развагамі пра дзіцячую літаратуру — сувязь яе з фальклорам, сённяшні стан, ролю ў выхаванні новага пакалення і месца ў школьнай сістэме — падзяліўся Браніслаў Зубкоўскі, што падпісаўся «ветэранам педагагічнай працы». Меркаванне чалавека, які ўсё жыццё прысвяціў школе, мусіць быць цікавым.**

Эстэтычны густ і светапогляд, вядома, фарміруюцца яшчэ ў маленстве, з першай пачутай казкі, з першай прачытанай кнігі. Адсюль зразумела, якая вялікая адказнасць ускладаецца на дзіцячую літаратуру, што, у сваю чаргу, бярэ пачатак з фальклору. Менавіта ў народнай творчасці захоўваецца «маральны код», арыенціры, якімі будзе кіравацца дзіця, калі вырасце.

Змітрок Бядуля ў свой час заклікаў да вывучэння народнапаэтычнай творчасці, адзначыўшы на старонках беларускага календара, выпушчанага ў Вільні ў 1921 годзе: «Мы маем класічную Іліяду, толькі не ўмеем выявіць і паказаць усяму свету яе вартасць». І калі ўважліва б вывучалі наш фальклор, падкрэсліваў З. Бядуля, не трэба было б звяртацца да матываў старой Грэцыі — было б дастаткова «вобразаў і формаў у свеце беларускай народнай душы».

Меў рацыю ён і тады, калі аддаваў жанравае першынство народнай прозе; відавочна, што папулярная сёння фантастыка, з яе навуковым прадбачаннем і пэўнай рамантыкай, бярэ пачатак у казцы. Акрамя таго, традыцыйная для казкі перамога дабрыні над злом дапамагае пакуль яшчэ маламу чалавеку сфарміраваць светапоглядную дамінанту. Дзяцей, як вядома, вабіць у казках гераічнае, і прыкладам для іх робяцца асілкі, якія ўвасабляюць адвагу і мужнасць, — Васіль Папялышка, Ламі Камень, Пакацігарошак ды іншыя.

У 1960 — 1990-я гады з'явіліся даследаванні сувязі дзіцячай літаратуры з фальклорнымі крыніцамі, з гісторыяй і краязнаўствам. Сярод іх — дзве манаграфіі пра Янку Маўра М. Яфімавай, манаграфіі С. Марчанка, прысвечаныя творчасці Васіля Віткі, праца Э. Гурэвіч «Детская литература Белоруссии», матэрыялы М. Барсток, публікацыі У. Разанава, рэцэнзіі Ф. Рытвінава і А. Марціновіча, які ў маскоўскім часопісе «Детская литература» (№ 6, 1978 г.) распачаў гаворку пра кнігі «Ладушкі-ладкі» і «Прыгоды бульбобаў» П. Місько.

Элементы народнай прозы прысутнічаюць і ў сучасным прыгодніцкім жанры, які бярэ пачатак яшчэ ад расповедаў пра паломніцтва на святыя землі Палесціны. Дарэчы, шкада, што, аналізуючы асаблівасці прыгодніцкага жанру, літаратуразнаўцы не звяртаюць на гэта належнай увагі.

На сёння ў Беларусі сфарміраваўся «корпус казачнікаў», якія зрабілі стаўку на фальклор — З. Прыгодзіч, М. Чарняўскі, Т. Сівец, Я. Хвалей, В. Савасцюк, Г. Чарказян, У. Мазго, Х. Лялько, П. Пазнякоў, В. Гіруць-Русакевіч, У. Муравейка ды іншыя.

Аднак пры ўсіх станоўчых якасцях сучаснай дзіцячай літаратуры (дынамічны сюжэт, шырокі тэматычны спектр) многія пісьменнікі злоўжываюць маралізатарствам. В. Бялінскі раіў аўтарам: «Калі вы расказваеце дзецям казку, схавайцеся за яе, каб вас не было бачна, няхай усё ў ёй гаворыць само за сябе». Звычайна няўменне пабудаваць твор арганічна прымушае пісьменніка хавацца недахопы за ўласнымі каментарыямі. Аўтар становіцца ў ментарскую позу, і сама ідэя твора пачынае выглядаць штучна, а значыць, не спрацоўвае, не прымаецца маленькім чытачом.

Трывогу выклікае і стан школьнай (юнацкай) аповесці. У гэтым жанры працуюць адзінкі — В. Кадзетава, В. Гардзей, А. Бадак, А. Ждан. Заслуга іх у тым, што яны звярнулі ўвагу на працэс сацыяльнай адаптацыі герояў, на праблему фарміравання асобы школьніка ў педагагічнай сістэме.

Некалькі слоў аб прапагандзе кніг для дзяцей. Недахопы, на жаль, ёсць. Рэдка практыкуюцца конкурсы прэзентацый твораў беларускіх пісьменнікаў. Няма ў каго вучыцца? Загляніце ў Мар'інагорскую раённую бібліятэку. У межах рэспубліканскай акцыі «Чытаем па-беларуску» ў 2012 годзе быў аб'яўлены творчы конкурс на лепшую рэкламу кнігі беларускага пісьменніка «Служэнне роднаму слову». У спіс найбольш цікавых кніг для дзяцей увайшлі «Сонечны кошык» М. Чарняўскага, «Цуда-вуда» У. Мазго, «Урокі першага кахання» і «Ведзьміна тоня» В. Гапеева, «Гімназія № 13» А. Жвалеўскага і Я. Пастэрнак.

Духоўнасць вызначае меру жыццёвых каштоўнасцей. Яна ж іграе галоўную ролю ў справе выхавання чалавека будучага, якое пачынаецца ўжо сёння.

# Каму чытаць «Міколку-паравоза»?



**Лада Алейнік — дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ, выкладчык спецкурса «Беларуская дзіцячая літаратура». Дык чаму б не прайсціся разам між паліц кніг, напісаных для маленькіх чытачоў, не прыгадаць прызабытыя творы? Агляд сучасных выданняў далучаецца!**

**— Лада Віктараўна, як даўно і з якой нагоды вы звярнуліся да вывучэння дзіцячай літаратуры?**

— Спачатку ў мяне быў досвед працы ў школе: дзесяць год выкладала мову і літаратуру, а калі прыйшла выкладаць на філалагічны факультэт БДУ, то са здзіўленнем даведалася, што ў нас няма курса дзіцячай літаратуры. Наш выпускнік — «Філолаг. Настаўнік беларускай мовы і літаратуры». Але весці літаратуру ў дзявятым і пятым класах — абсалютна розныя рэчы! Адсюль пытанні: як размаўляць з маленькімі дзеткамі, якія толькі прыйшлі з пачатковай школы, як зацікавіць іх сваім прадметам, якія творы пазашкольнай праграмы прапанаваць? Каб дапамагчы ў гэтым, я склала праграму спецкурса «Беларуская дзіцячая літаратура» і магу пахваліцца, што кожны год да мяне запісваецца многа студэнтаў, прычым, з лепшых — хто любіць літаратуру, плануе займацца ёю далей альбо бачыць сябе педагогам. У педуніверсітэце, калі не памыляюся, такі курс ёсць. У БДУ ён існаваў у савецкія гады, і яго выдатна чытала Маргарыта Яфімава.

**— Беларуская літаратура для дзяцей развіваецца, а напісанае некалі забываецца, не перавыдаецца. Што варта прыгадаць у першую чаргу?**

— Для маіх студэнтаў адкрыццём была, напрыклад, аповесць Уладзіміра Дубоўкі «Жоўтая акацыя». Шкада, што яна не вывучаецца, бо ў творы шмат навуковага, пазнавальнага матэрыялу, сабранага праз вялікую пісьменніцкую працу. З творчай спадчыны Івана Навуменкі ў школьнай праграме ёсць толькі два апавяданні, але з майго пункту гледжання, самая моцная яго рэч — трылогія «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва», напісаная напрыканцы творчага шляху. У аўтабіяграфічных аповесцях адлюстравана жыццё вясковага хлопчыка — з таго моманту, калі ён пачынае сябе памятаць. Галоўны герой Вася Войцік цікавіцца птушкамі, і твор змяшчае ўнікальны прыродазнаўчы матэрыял. Аналагаў гэтай трылогіі ў айчыннай літаратуры няма, а з рускай можам прыгадаць Л. Талстога, М. Горкага…

Адзначым і Міхася Лынькова. Многія пасмейваюцца: няўжо сучасны школьнік будзе чытаць сёння «Міколку-паравоза»? Так, будзе, і гэта адзін з самых папулярных твораў: колькі там гумару, досціпу! Дзеці смяюцца на ўроку, з захапленнем абмяркоўваюць. Альбо «Казка пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў» — з анекдатычнымі сітуацыямі, шаржавымі замалёўкамі, гумарыстычнымі карцінкамі… Гэта выключныя творы для сучасных школьнікаў, якія абсалютна не састарэлі. З творчай спадчыны Янкі Маўра сёння добра ўспрымаюцца і «Палескія рабінзоны», і экзатычныя гісторыі, якія маюць востры сюжэт, кшталту «Слёз Тубі». У гэтым апавяданні хлопчыка прывязалі за нагу і выкарыстоўвалі як прынаду для лоўлі кракадзілаў. Раней такія творы ўспрымаліся як выкрыццё капіталістычнага ладу, а сёння гэта проста маляўнічыя, эмацыянальныя апавяданні, якія выклікаюць суперажыванне чытача.

Многіх кніг не было ў дзяцінстве, у школе, і людзі знаёмяцца з імі толькі ва ўніверсітэце. Мае студэнты з цікавасцю чытаюць тэтралогію Алены Васілевіч «Пачакай, затрымайся». У аповесцях адлюстраваны жыццёвыя рэаліі 1960 — 1970-х гадоў, але многія пытанні сферы этыкі і маралі застаюцца актуальнымі і цяпер. Няхай змяняюцца вонкавыя ўмовы жыцця, але нам хочацца дабрыні, спагады, разумення, пяшчоты. Запатрабаваны і творы У. Караткевіча, М. Стральцова, В. Адамчыка…

**— Наколькі выяўлена ў іх творах савецкая ідэалогія? І як сёння ўспрымае гэта чытач?**

— Таленавітыя пісьменнікі, таленавітыя творы, і акцэнт яны рабілі на іншым. Гаворка найперш пра маральнасць, ідэалагічныя рэчы — фонавыя, на іх вельмі мала звяртаецца ўвагі. Але ў трылогіі І. Навуменкі, напрыклад, ідэалагічныя моманты ёсць. Пісьменнік здорава пераўвасобіўся ў сябе колішняга, у хлопчыка, які сядзіць за партай і не разумее, чаму настаўніца прыйшла і сказала заклеіць партрэт Цішкі Гартнага ў падручніку, чаму арыштавалі лепшых настаўнікаў. А на пачатку вайны моладзь жыве высокімі мэтамі, юнакі ідуць бараніць Радзіму. Кніга моцная сваім патрыятызмам, яна і сёння актуальная для тых, хто разумее, што такое нацыя, культура.

**— На вашу думку, як прымусіць чытача звярнуцца да класікі?**

— Я ўпэўнена, што калі творы Я. Маўра, М. Лынькова, В. Віткі выдаць з такімі ілюстрацыямі, так маляўніча, як сёння, іх абавязкова чыталі б…

**— Ці можна сказаць, што беларускія пісьменнікі ў творах для дзяцей найперш сыходзілі з рэальнасці, з успамінаў пра ўласнае маленства, а казак, створаных паводле ўяўлення, было значна менш? Бо, як мы бачым, самыя папулярныя ў сучасных дзяцей творы цалкам прыдуманыя, маюць мінімум жыццёвага…**

— Можна згадаць казкі У. Дубоўкі, В. Віткі. Беларуская літаратурная казка звычайна мае прыкметы фальклору. Цяпер пераважна запатрабаваны казкі сучасных аўтараў.

**— Якія творы для юнага чытача вы вылучылі б у сучаснай літаратуры?**

— У нас увогуле багата твораў, на якіх можна выхоўваць дзяцей, падлеткаў. Шмат гадоў прайшло з таго часу, як я прачытала «Сэрца мармуровага анёла», «Пярсцёнак апошняга імператара» Людмілы Рублеўскай. Тады мне падавалася, што гэта наследаванне Караткевічу ці нават эпігонства, але пісьменніца вельмі паслядоўна, мэтанакіравана піша для юнага пакалення, шукае інтанацыю размовы, падбірае вобразы, тэмы, адкрывае значныя праблемы і ставіць перад сабой высокія мэты, што заслугоўвае кампліментаў!

**— Вы лічыце, што гэтыя творы адрасаваныя пераважна юнацкай аўдыторыі?**

— Я думаю, што ў значнай ступені так. Ёсць пэўныя прыкметы літаратуры для юнацтва, пра якія я пісала ў шэрагу артыкулаў: абавязковая наяўнасць героя-ідэала, вытлумачэнне этычных ацэнак, падрабязнае апісанне гістарычных падзей і сітуацый. «Сэрца мармуровага анёла», «Пярсцёнак апошняга імператара» выйшлі менавіта ў серыі для школьнікаў, а вось «Сутарэнні Ромула» — ужо звычайнае выданне. Але там дзейнічаюць маладыя людзі, і кніга разлічана менавіта на падлеткаў, на моладзь.

**— Пра школьную праграму па беларускай літаратуры. Як вы лічыце, наколькі добра яна складзена?**

— У нас часта шукаюць шляхі да папулярызацыі беларускай літаратуры і прапануюць перагледзець школьную праграму: маўляў, гэта нецікава, тое састарэла. Але калі выкінуць пэўнае звяно, агульная карціна парушыцца, не будзе поўнай: матэматыкі ж не абмінаюць тэарэму Піфагора, бо яна сумная! У нас жа раяць выкрасліць класічныя творы Купалы ды Коласа, бо яны неактуальныя, што зусім не так. Але літаратура — такая ж навуковая дысцыпліна, як усе іншыя, і трэба ведаць, на чым яна грунтавалася, з чаго ўтварылася, якімі імёнамі была прадстаўлена, як рэагавала на грамадскія і гістарычныя падзеі і з'явы, як развіваліся жанры, напрамкі. Але пашыраць і ўзбагачаць, безумоўна, варта!

У літаратуру для дзяцей закладзена дабрыня — мы можам казаць, што гэта дыдактызм, але гэта і асновы сацыялізацыі, інкультурацыі, выхавання чалавека. Кніга многаму вучыць, што адбываецца абсалютна неўсвядомлена: праз цікавы сюжэт, займальную сітуацыю. Чытач прымае за аксіёму, пераймае паводзіны героя, які яму падабаецца, пагаджаецца з яго поглядамі. Альбо наадварот, вызначае: гэта антыгерой, і я ніколі не буду такім, ніколі не буду так рабіць. Вядома, каб выхаваць прыстойнага чалавека, недастаткова толькі кнігі: адыгрываюць ролю і грамадскія адносіны, сябры, сям'я… Але для людзей інтэлігентных, адукаваных дзяцінства немагчыма без літаратуры і павагі да кніг.

**Гутарыла Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Топ-10: кнігі для дзяцей і падлеткаў

## (Паводле Лады Алейнік)

**Андрэй Федарэнка «Шчарбаты талер», «Афганская шкатулка».** Гэта лепшыя ўзоры падлеткавай, прыгодніцкай прозы. Вядома, тут ёсць дыдактызм, але для дзяцей інакш нельга, акцэнты павінны быць расстаўлены. Дзіця не мае дастатковага жыццёвага досведу, таму многае трэба паказаць даходліва, і для маленькага чытача варта падзяліць свет на чорнае і белае. Ідэалізацыя герояў падаецца таксама дапушчальнай.

**Алесь Бадак «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца».** На маю думку, гэта лепшы твор апошніх дзесяці гадоў! Аповесць будзе цікавай і школьніку, і даросламу, яна вельмі адмысловая па форме. Пісьменнік выдатна вытрымаў інтрыгу, твор чытаецца на адным дыханні. У развязцы разумееш, што кожнаму ўласціва памыляцца, мы можам лёгка, неабдумана пакрыўдзіць іншага. Аўтар згадвае шмат сучасных рэчаў: мабільны тэлефон, інтэрнэт — і мы бачым, што чалавека лёгка пакрыўдзіць, выкарыстоўваючы інфармацыйныя тэхналогіі. З дзецьмі трэба размаўляць і пра гэта: шукаць словы, вобразы…

**Валерый Гапееў «Ведзьміна тоня».** Самая вялікая ўдача пісьменніка, які напісаў шмат добрых твораў. Аповесць вельмі кранальная, тут няма вострасюжэтных прыгод: у творы выяўлена жыццё не вельмі шчаслівага хлопчыка з асацыяльнай сям'і, у якога на руках маленькая сястрычка. Ён не можа сабе дазволіць парушыць закон, скрасці, ён павінны самасцвярджацца толькі маральным шляхам. Па-мастацку даходліва, праўдзіва пісьменнік адлюстроўвае долю свайго героя, які выклікае сімпатыю чытача.

**Яўген Хвалей «Прынцэса тусоўкі».** Прыхільнікаў аповесці многа, але асабіста я не магу ставіцца аб'ектыўна да гэтага твора. Гісторыя, апісаная ў кнізе, — рэальная, яна адбывалася тады, калі я была школьніцай, а потым прыйшла працаваць у гэту школу сама. І не магу дараваць аўтару, што персанажаў-педагогаў ён змясціў пад уласнымі імёнамі, а вельмі прыстойных людзей намаляваў антыгероямі. Калі кнігу прачыталі, многім было вельмі прыкра, адна з настаўніц пайшла на пенсію — адзіны чалавек, які пагадзіўся выкладаць матэматыку па-беларуску ў маім беларускамоўным класе! Аповесць пакідае яркія ўражанні, тут правільна расстаўлены маральныя акцэнты наконт падзей, але аўтар не вельмі прыгожа абышоўся з рэальнымі людзьмі.

**Людміла Рублеўская «Прыгоды мышкі Пік-Пік».** Кніга пра мышку Пік-Пік — светлая, добрая, магчыма, яна склалася з гісторый, якія пісьменніца расказвала ўласным дзецям непасрэдна пра іх. У сям'і цёплыя адносіны, маці выпякае смачныя торцікі, бацька з сынам майструюць караблік... Жыве тут і мышка, пра якую ўсе клапоцяцца. Яна, як сапраўдная дзяўчынка, фарбуе валасы, карыстаецца маміна́й касметыкай, спрабуе браць удзел у сямейных справах. Вядома, у дзяўчынак гэта выклікае замілаванне.

**Раіса Баравікова. «Казкі астранаўта», «Казкі з гербарыя» і інш.** Кнігі гэтай пісьменніцы заўсёды згадваюць, калі я заходжу з апытанкамі ў дзіцячыя садкі. Дзеці слухаюць фантастычныя гісторыі, інсцэніруюць іх па ролях. Выданні падабаюцца і таму, што маюць яркія вокладкі і суперілюстрацыі!

**Таццяна Мушынская «Вожыкі ў футбол гуляюць».** Тут сабраны і вершы, і проза. Галоўныя героі, верагодна, дзеці самой пісьменніцы. Жыццёвыя гісторыі паказваюць, як прывіваецца ў сям'і ўвага да сябра, навыкі камунікацыі з дарослымі, аднагодкамі.

**Анатоль Зэкаў «Зязюля-гулюля».** Тут дзяцей асабліва прывабліваюць казкі з арыгінальнай рытміка-арганізацыйнай структурай. Яны напісаны прозай, але рыфмуюцца — і выдатна падыходзяць для інсцэніравання, бо лёгка слухаюцца і запамінаюцца.

**Міхась Пазнякоў «Гульняслоў».** Гэта чытанка — падарунак і дзецям, і бацькам, і выхавальнікам, і настаўнікам, бо тут ёсць пытанні на кемлівасць, анаграмы, загадкі, шарады, крыжаванкі, каламбуры, жартоўныя вершы… Чым не настольная кніга для дзяцей чатырох — шасці гадоў?

**«Чырвоная кніга ў казках і вершах».** Сюды ўвайшлі творы аўтараў розных пакаленняў. Яна мела папулярнасць, перавыдавалася, выдаўцы заўважылі, што карыстаецца попытам, і зрабілі яшчэ тры выдатныя праекты: «Лясная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў», «Блакітная…» і «Касмічная…» кнігі. Яны пашыраюць досвед, маюць займальную форму, таму што большасць твораў — з прыгодамі і яркімі сюжэтамі.

**Склала Алеся ЛАПІЦКАЯ**

*Прэзентацыя*

# Магічны рэалізм па-славацку

**Пабачыў свет новы, ужо шосты па ліку, выпуск часопіса сучаснай прозы «Макулатура». Падзагаловак «Славацкая» вызначае яго асноўную тэму.**




Рэдакцыя часопіса ўжо рыхтавала нумары, прысвечаныя пэўным краінам. Так, другі выпуск «Макулатуры» быў пра Шатландыю, а чацвёрты — пра Англію. Змяшчалі яны пераважна ўспаміны пра гэтыя краіны беларускіх аўтараў, а таксама некаторыя пераклады прозы на беларускую мову. Гэтым разам канцэпцыя нумара крыху змянілася. Шосты выпуск цалкам складаецца з перакладаў прозы сучасных славацкіх аўтараў на беларускую мову. Выданне пабачыла свет пры падтрымцы Камітэта SLOLIA, які працуе ў межах Цэнтра інфармацыі пра літаратуру (Браціслава). Адметнае і афармленне «Макулатуры».

— Паводле канцэпцыі выдання, мастацкі складнік не павінен саступаць літаратурнаму, — распавёў галоўны рэдактар «Макулатуры», пісьменнік Сяргей Календа. — Таму пры распрацоўцы агульнага рашэння шостага нумара мы імкнуліся паказаць адметнасць славацкай культуры. Але зрабіць гэта трэба было нетрадыцыйна, без акцэнту на стэрэатыпы. Таму разам з галоўным мастаком Васілісай Палянінай-Календа мы прыдумалі вельмі цікавы ход. Усе ілюстрацыі, што ўвайшлі ў гэтае выданне, змяшчаюць элементы вышыўкі. Яны вышытыя на паперы ці тканіне або проста выкладзеныя ніткамі ў адмысловыя стылёвыя аплікацыі. Па-мойму, атрымалася цікава, асаблівасці славацкай культуры перададзеныя.

І сапраўды, дзякуючы такому незвычайнаму рашэнню работы шасці абсалютна розных па стылі і характары мастакоў, што працавалі над выданнем, выдатна спалучаюцца.

Пагадзіцеся, пра Славакію мы ведаем не так і многа, зусім няшмат — пра літаратурнае жыццё гэтай краіны. «Макулатура (Славацкая)» прыадкрывае заслону. У нумар увайшлі празаічныя тэксты дзесяці сучасных славацкіх аўтараў у перакладзе на беларускую мову Сяргея Сматрычэнкі, Насты Доду, Святланы Рогач, Веранікі Бяльковіч, Святланы Богуш.

— Я стараўся адбіраць найбольш актуальныя тэксты, каб прадставіць беларускаму чытачу як мага поўную карціну сучаснага стану славацкай літаратуры, — распавёў перакладчык і рэдактар нумара Сяргей Сматрычэнка. — Раіўся са славацкімі калегамі, пісьменнікамі, баяўся прапусціць нешта важнае. Шмат у чым мне дапамагла празаік Моніка Кампанікава. Яна працуе ў вялікай кнігарні, ведае ўсе навінкі, таму змагла падказаць некалькі цікавых аўтараў. Дарэчы, спадарыня Моніка даслала для «Макулатуры» сваё новае апавяданне, якое на той час яшчэ нідзе не друкавалася паславацку.

Змест новай «Макулатуры» паказвае, што сучасная славацкая проза надзвычай разнастайная, нават стракатая. Так, тут можна прачытаць даволі жорсткае і брутальнае апавяданне панк-спявачкі і актрысы Луцыі Піусі «Несмяротны кот», а пасля супакоіцца творам Уршулі Ковалік «Гаваркія лыжачкі самотнай Юліі», напісаным у рэчышчы магічнага рэалізму. Акунуцца ў атмасферу містыкі Карпатаў, страшных легенд і захапляльнага фальклору можна, пазнаёміўшыся з фрагментамі вялікага твора Мараша Крайняка *Carpathia*. А потым разам з Душанам Тарагелем паздзекавацца з неверагодных курсаў у апавяданні, якое так і называецца — «Курсы».

— Сучасная славацкая літаратура ўвогуле вельмі самадастатковая, — разважае Сяргей Сматрычэнка. — Тут не існуе моўнага пытання, і, нягледзячы на тое, што ў краіне жыве толькі каля пяці мільёнаў чалавек, славакі не лічаць сябе малым народам і, адпаведна, сваю літаратуру — малой. Яны цалкам адкрытыя свету, з задавальненнем успрымаюць усё новае і не баяцца паказаць сябе. Тут амаль няма рэалізму ў чыстым выглядзе, але часта можна натрапіць на эксперыменты ў рэчышчы стылю, які мы называем «магічным рэалізмам».

Кажуць, што славацкая мова вельмі падобная да беларускай, польскай і асабліва ўкраінскай. Магчыма, знаёмства з «Макулатурай» падштурхне да больш падрабязнага вывучэння славацкай літаратуры, а можа, натхніць славакі бок на падобны крок — выданне перакладаў з падзагалоўкам «Беларускі».

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Унікальны праект*

# Слова пра гнома




*Ілюстрацыя з кнігі «Гномы. Энцыклапедыя»*

**Што мы ведаем пра самы знакаміты казачны народ Еўропы, прадстаўнікі якога прысутнічаюць як у фальклоры скандынаваў, так і славян, германцаў, фіна-уграў, ды, бадай, усіх народаў нашага кантынента? Так, гаворка пра гномаў. Ці кожны з вас ведае, колькі важыць сярэднестатыстычны мужчына-гном? А ў якім узросце ён дасягае росквіту сіл? Як гномы абіраюць свайго караля? Як вызначыць характар гнома па форме яго носа? На гэтыя, а таксама многія іншыя, часам неверагодныя, пытанні хаваюцца адказы ў маналітным выданні «Гномы. Энцыклапедыя» (Масква: РИПОЛ классик, 2013).**

Перад вамі незвычайны даведнік. Тут няма сухіх трактовак таго ці іншага азначэння, няма структуры «ад А да Я», тэкст не выклікае вострых прыступаў пазяхання. Гэта нетрывіяльны аповед, падмацаваны гістарычнымі фактамі і матэрыяламі этнаграфічных экспедыцый, аздоблены выдатнымі ілюстрацыямі, дзякуючы якім кніга ажывае перад чытачом і стварае эфект поўнага далучэння да таямнічага свету гномаў. Гэта першае грунтоўнае выданне, у якім усебакова асветлены фізіялогія прадстаўнікоў гэтага загадкавага народа, іх побыт, арэал распаўсюджання, лакальныя назвы, узаемаадносіны з навакольным асяроддзем, жывёльным светам і, канечне, з чалавекам.

Дуэт галандцаў — пісьменніка Уіла Хэйгена і мастака Рына Поартфліта — пасля дваццаці гадоў пільных назіранняў і даследаванняў у сферы гномазнаўства шчыра верыць, што іх праца запоўніць крыўдны прабел у ведах чалавецтва пра гномаў. Бо кампетэнтных друкаваных выданняў, прысвечаных гэтай тэме, бадай, не існуе. Сапраўды, не ўлічваючы шматлікіх фэнтэзійных апісанняў, у якіх аўтар таго ці іншага твора імкнуўся дапоўніць ці дашчэнту знішчыць, а потым наноў перапісаць характарыстыку гнома як істоты і як асобы. Але можна вылучыць трактат 1580 года пад назвай «Пра маленькі народ» Вільгельма Вундэрліха, дзе хаваецца ўнікальная інфармацыя. Аўтары «Энцыклапедыі» зазначаюць, што ў трактаце Вундэрліх часта блытае гномаў з іншымі сумніўнымі фальклорнымі персанажамі, з-за чаго звесткі часам нельга лічыць надзейнымі. Таму пры канцы свайго выдання яны пералічваюць асноўных істот (карузлікаў, троляў, гоблінаў, лясных духаў), з якімі выпадкова можна пераблытаць гномаў. Для поўнага разумення месца гномаў у сусвеце аўтары «Энцыклапедыі» прыводзяць і самыя яскравыя легенды, у якіх адлюстроўваецца нораў і паводзіны гэтых істот.

Слова «гном» паходзіць ад старажытнагерманскага *Kuba-Walda* і перакладаецца як «гаспадар хаты». У сельскай мясцовасці гэтыя невялічкія істоты, на плячах якіх трымаецца ўся хата, жывуць у свірнах ці на паддашшах. Калі людзі з павагай ставяцца да гномаў, тыя таксама даглядаюць жывёлу і дбаюць пра добры ўраджай. Раней гномаў лічылі паўнавартаснымі членамі грамадства, людзі часта сустракаліся з імі, а маленькія істоты маглі ці дапамагчы чалавеку, ці пакараць яго — у тыя часы, калі воды былі чыстымі, а лясы — гушчарамі, паселішчы злучалі невялічкія дарогі, а ў нябёсах гаспадарылі толькі птушкі ды зоры. Сёння ж гномы павінны хавацца ў самых патаемных куточках зямлі і пад зямлёй, бо людзі амаль не пакінулі месца для іх існавання. Але, нягледзячы на гэта, гномы і цяпер існуюць побач з намі. Трэба толькі прыглядзецца!




*Драўляная статуэтка гнома ў натуральную велічыню (Тронхейм, Нарвегія, прыкладна 1200 год, вышыня 15 см).*

Радзімай гномаў (паводле іх уласных слоў) лічыцца старажытная Скандынавія. А падчас Вялікага перасялення народаў яны пачынаюць распаўсюджвацца па тэрыторыі ўсёй Еўропы. Сёння арэал распаўсюджання гномаў у Еўропе выглядае наступным чынам. Заходняя мяжа праходзіць па ўзбярэжжы Ірландыі, дзе гномаў клічуць лепрыконамі, усходняя — паміж землямі Усходняй і Заходняй Сібіры, паўночная мяжа праходзіць па тэрыторыі Нарвегіі, Швецыі, Фінляндыі і Расіі, а паўднёвая лінія пачынаецца ад марскога ўзбярэжжа Бельгіі і доўжыцца праз Швейцарыю, Балканы, паўночнае ўзбярэжжа Чорнага мора, Каўказ і мяжу рускай Сібіры ды Казахстана. Такая «Геаграфія» абумоўлена, у першую чаргу, больш кароткімі днямі і доўгімі зімнімі начамі ў абласцях, што месцяцца на поўначы ад гэтай лініі.

У залежнасці ад тэрыторыі, на якой пражываюць гномы, яны маюць розныя назвы ў розных моваў народаў свету. Да прыкладу, у Нідэрландах іх клічуць скрытэкамі, у Даніі — нісэ, у Балгарыі — дуджэ, у Польшчы — красналюдкамі. Беларусы ж гномаў клічуць дамавікамі і вохамі.

Сваё даследаванне Уіл Хэйген і Рын Поартфліт выдалі ў 1976 годзе ў Нідэрландах, прычым, з дазволу вярхоўнага савета гномаў. Сёння і ў рускамоўнага чытача з'явілася магчымасць пазнаёміцца з гэтым унікальным выданнем, якое сапраўды аздобіць хатнюю бібліятэку, парадуе юнага чытача і не пакіне абыякавым сталага, дасць магчымасць у поўнай меры адчуць, што гномы і сёння побач з чалавекам. Мабыць, пакуль вы чытаеце радкі гэтага тэксту, гномы ў засценку плятуць кошыкі. Прыслухайцеся: чуеце?

**Вячка КРАСУЛІН**

# Навінкі кнігавыдання

## ГЕАГРАФІЯ. БІЯГРАФІІ. ГІСТОРЫЯ

### Археалогія

**Калядзінскі, Л. У.** Уводзіны ў археалогію / Леанід Калядзінскі. — Гродна: ЮрСаПрынт, 2013. — 238 с. — Частка тэксту на рускай мове. — Рэзюмэ паралельна на рускай і англійскай мовах. — Бібліяграфія ў канцы глаў. — 500 экз. — ISBN 978-985-90264-6-1.

### Краязнаўства

**Вярбіцкі, І. І.** Ад мінуўшчыны — дарогай ...: [пра гістарычнае мінулае і сучаснае жыццё раённага горада Карэлічы] / Іван Вярбіцкі. — Слонім: Слонімская друкарня, 2013. — 190 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7027-12-5.

**Гарадзенскія чытанні:** зборнік матэрыялаў / ДУК «Гродзенская абласная навуковая бібліятэка ім. Я. Ф. Карскага», Аддзел краязнаўства; [складальнікі: Л. І. Турмасава, А. В. Кучынская; навуковы рэдактар С. В. Марозава]. — Гродна: Гродзенская друкарня, 2013.

Вып. 2. — 2013. — 183 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 300 экз. — ISBN 978-985-7037-45-2 (у пер.).

**Гришанова, Л. Ф.** Святые истоки Могилевской земли / Людмила Гришанова. — Могилев: Информационное агентство «Могилевские ведомости», 2013. — 311 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-90326-2-2.

**Карлюкевіч, А.** Старонкі радзімазнаўства: мясціны, асобы: краязнаўчыя нарысы / Алесь Карлюкевіч. — Мінск: Звязда, 2013. — 380 с. — 1400 экз. — ISBN 978-985-7059-98-0 (у пер.).

**Паноў, С. В.** Мая Радзіма — Беларусь: 4-ты клас / С. В. Паноў. — 5-е выд., перапрацаванае. — Мінск: Аверсэв, 2013. — 125 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-533-284-9.



***Мальдис, А. И. Соотечественники: очерки о белорусах и уроженцах Беларуси, обогативших мировую культуру / Адам Мальдис. — Минск: Звязда, 2013. — 334 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-7059-85-0 (в пер.).***

*Апошнім часам на паліцах беларускіх кнігарняў з'яўляецца ўсё больш і больш выданняў, прысвечаных нашым землякам, якія пакінулі след у культурах замежных краін. Кніга доктара філалагічных навук Адама Мальдзіса — адна з самых яркіх у гэтым шэрагу. Выдатны апавядальнік, Адам Восіпавіч вядзе чытача сцежкамі беларусаў у Чылі, Казахстане, Чэхіі, ЗША, Польшчы… Ён распавядае пра ўжо вядомыя факты з жыцця землякоў у замежжы, а таксама робіць новыя адкрыцці, выказвае цікавыя і нечаканыя гіпотэзы. Нягледзячы на тое, што выданне складзенае з асобных эсэ, успрымаецца і чытаецца яно як цэласная кніга.*

### Геаграфія

**Антипова, Е. А.** География населения: пособие для студентов высших учебных заведений, обучающихся по специальности 1-31 02 01 «География (по направлениям)» / Е. А. Антипова. — Минск: БГУ, 2012. — 263 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-518-739-5 (в пер.).

**Бобрик, М. Ю.** Введение в социально-экономическую географию: методические рекомендации: [для студентов] / М. Ю. Бобрик; Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный университет им. П. М. Машерова, Кафедра географии. — Витебск: ВГУ, 2013. — 48 с. — 65 экз.

**География населения:** методические рекомендации: [для студентов] / Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный университет им. П. М. Машерова, Кафедра географии; [авторы-составители: Е. А. Антипова, М. Ю. Бобрик]. — Витебск: ВГУ, 2013. — 49 с.. — 60 экз.

### Гісторыя

**Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (Мінск). Гістарычны факультэт.** Працы гістарычнага факультэта БДУ: навуковы зборнік / [рэдкалегія: У. К. Коршук (адк. рэд.) і інш.]. — Мінск: БДУ, 2006 — ISSN 1995-5669.

Вып. 8. — 2013. — 246 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз.

**Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны:** навуковы зборнік. — Мінск: БДУ, 2002— — ISSN 1995-5650.

Вып. 8 / [рэдкалегія: С. М. Ходзін (адк. рэд.) і інш.]. — 2013. — 218 с. — Частка тэксту на рускай і англійскай мовах. — 100 экз.

### Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым

**Голденков, М. А.** Рождение империи: экспансия, русский генофонд, судьбы коренных народов, собирание земель русских / Михаил Голденков. — Минск: Букмастер, 2014. — 250 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-837-8 (в пер.).

**Голденков, М. А.** Русь — другая история: [Украина, Беларусь, Литва] / Михаил Голденков. — Минск: Букмастер, 2014. — 408 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-845-3 (в пер.).

**Голденков, М. А.** Тайны 1812 года. Лед и пламя / Михаил Голденков. — Минск: Букмастер, 2014. — 319 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-805-7 (в пер.).

### Гісторыя Беларусі

**Белазаровіч, В. А.** Гісторыя Беларусі: другая палова XVI — канец XVIII ст.: 8-мы клас: рабочы сшытак : дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання: [дадатак да вучэбнага дапаможніка «Гісторыя Беларусі: другая палова XVI — канец XVIII ст.» для 8-га класа (аўтары: В. А. Белазаровіч, І. П. Крэнь, Н. М. Ганушчанка)] / В. А. Белазаровіч, І. П. Крэнь. — 2-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2014. — 125 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-533-296-2.

**Беларусь у XIX—XXI стагоддзях: праблемы этнакультурнага і нацыянальна-дзяржаўнага развіцця:** зборнік навуковых артыкулаў / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Францыска Скарыны; [рэдкалегія: В. А. Міхедзька (адказны рэдактар) і інш.]. — Гомель: ГДУ, 2013. — 304 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 60 экз. — ISBN 978-985-439-823-5.

**Гилевич, Ж. В.** Березина, Борисов, 1812 год = Berezina, Borisov, year 1812 / Ж. В. Гилевич; [перевод с русского языка: Е. Ф. Гилевич; фото: Ф. В. Гилевич]. — 3-е изд., переработанное. — Борисов: Борисовская укрупненная типография, 2013. — 44 с. — Текст параллельно на русском и английском языках. — 250 экз. — ISBN 978-985-90328-1-3.

**Деружинский, В. В.** Забытая Беларусь / Вадим Деружинский; под общей редакцией А. Е. Тараса. — Минск: Харвест, 2013. — 495 с. — (Неизвестная история). — 5000 экз. — ISBN 978-985-18-0455-5 (в пер.).

**«Заходнебеларускі рэгіён у паўстанні 1863—1864 гг.», навукова-практычная канферэнцыя (2013; Пружаны).** Навукова-практычная канферэнцыя «Заходнебеларускі рэгіён у паўстанні 1863—1864 гг.»: зборнік дакладаў: 12—13 красавіка 2013 г., [Пружаны]. — Брэст: [БрДТУ], 2013. — 91 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 60 экз. — ISBN 978-985-493-267-5.

**Минская область в документах и материалах:** сборник / Государственный архив Минской области. — Минск, 2007—

Вып. 3: Оккупация: 1941—1944 гг. / Главное управление юстиции Минского областного исполнительного комитета ...; [составители: Е. А. Гребень, В. М. Матох; научный редактор В. К. Коршук]. — Белстан, 2013. — 143 с. — Часть текста на белорусском языке. — 150 экз. — ISBN 978-985-6944-47-8.

**Никитенко, П. Г.** Созидатель разума и духовно-нравственного трудового потенциала белорусского народа: [оценка личности П. М. Машерова] / П. Г. Никитенко. — Минск: Право и экономика, 2013. — 40 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-552-261-5.

**Панов, С. В.** История Беларуси: вторая половина XVI — конец XVIII в. : 8-й класс: рабочая тетрадь: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения: [приложение к учебному пособию «История Беларуси: вторая половина XVI — конец XVIII в.» для 8-го класса (авторы: В. А. Белозорович, И. П. Крень, Н. Н. Ганущенко)] / С. В. Панов. — 3-е изд., переработанное. — Минск: Аверсэв, 2014. — 120 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-533-297-9.

**Панов, С. В.** История Беларуси: конец XVIII — начало XX в.: 9-й класс: рабочая тетрадь: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения: [приложение к учебному пособию «История Беларуси: конец XVIII — начало XX в.» для 9-го класса (под редакцией В. А. Сосно)] / С. В. Панов. — 2-е изд. — Минск: Аверсэв, 2014. — 95 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-533-294-8.

**Панов, С. В.** Материалы по истории Беларуси: 9-й класс: 42 темы для изучения, задания для самоконтроля, иллюстрации, логические схемы, терминологический словарь, хронологическая таблица, словарь персоналий, карты / С. В. Панов; [под научной редакцией Н. С. Сташкевича, Г. Я. Голенченко]. — 11-е изд. — Минск: Аверсэв, 2014. — 319 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-533-249-8.

**Савчук, Т. П.** Увековечение событий Великой Отечественной войны в Беларуси : монография / Т. П. Савчук; [научный редактор В. В. Зданович]; Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина. — Брест: БрГУ, 2013. — 168 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-555-117-2.

**Урок ценою судеб:** материалы международной студенческой научно-практической конференции, 15—16 мая 2013 г. — Минск: Издательский центр БГУ, 2013. — 99 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-553-148-8.

**Чыгрын, С. М.** Іншых шляхоў не было: гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы, гутаркі / Сяргей Чыгрын. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 239 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7089-17-8 (у пер.).

**Шакутин, В. П.** Память о войне: факты суровой действительности / Владимир Шакутин; [под редакцией К. И. Козака]; Минский международный образовательный центр им. Йоханнеса Рау, Дортмундский международный образовательный центр, Историческая мастерская ММОЦ. — Минск: Галіяфы, 2013. — 290 с. — Часть текста на белорусском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-7021-19-2.

**Шарапов, В. И.** Нас время ставит на свои места: [мемуары] / Василий Шарапов. — Минск: Торгово-финансовый союз «БТФС», 2013. — 351 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-90248-6-3 (в пер.).

### Дакументацыя. Друк у цэлым

**Книжная культура. Ветка** / [редакционный совет: О. В. Пролесковский и др.; авторы текста: С. И. Леонтьева, Г. Г. Нечаева; фото А. П. Дрибаса]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 526 с. — 1700 экз. — ISBN 978-985-11-0688-8 (в пер.).

### Цывілізацыя. Культура. Прагрэс

**Гуманітарызацыя і культура:** зборнік студэнцкіх навуковых прац / [рэдкалегія: У. П. Люкевіч (старшыня) і інш.]. — Брэст: Альтернатива, 2013. — 129 с. — Частка тэксту паралельна на рускай і англійскай мовах. — Частка тэксту на польскай і рускай мовах. — 50 экз. — ISBN 978-985-521-395-7.

**Культура. Наука. Творчество** = Культура. Навука. Творчасць = Culture. Science. Arts: сборник научных статей / Министерство культуры Республики Беларусь [и др.]. — Минск: БГАМ, 2008—

[Вып. 7]: VII Международная научно-практическая конференция (Минск, 29—30 мая 2013 г.) / [научный редактор В. Р. Языкович]. — 2013. — 581 с. — Часть текста на белорусском языке. — 130 экз. — ISBN 978-985-522-087-0.

**Міжнародныя Кірыла-Мяфодзіеўскія чытанні (19; 2013; Мінск).** Матэрыялы XIX Міжнародных Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытанняў, прысвечаных Дням славянскага пісьменства і культуры (Мінск, 22—24 мая 2013 г.): у 2 ч. / [рэдкалегія: В. Р. Языковіч (адк. рэд.) і інш.]. — Мінск: БДУКМ, 2013. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-522-089-4.

Ч. 1. — 176 с. — ISBN 978-985-522-090-0.

Ч. 2. — 171 с. — ISBN 978-985-522-091-7.

**Народная художественная культура в контексте процессов глобализации:** материалы международной научно-практической конференции (г. Бобруйск, 28—29 июня 2013 г.) в рамках международного фестиваля народного творчества «Венок дружбы» / [редколлегия: И. И. Крук (главный редактор), Г. Ф. Шауро, В. И. Коваль]. — Минск: Институт культуры Беларуси, 2013. — 179 с. — Часть текста на белорусском языке. — 60 экз. — ISBN 978-985-7045-11-2.

### Музеі. Пастаянныя выстаўкі

**Бегтин, К.** Загадка минских валунов: святилище в мегаполисе / Константин Бегтин. — Минск: Энциклопедикс, 2013. — 32 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6958-83-3.

**Мірскі замак:** крыніцы стварэння музейных экспазіцый: гісторыка-дакументальныя матэрыялы і інфармацыйныя тэхналогіі: матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (г. п. Мір, 29 мая 2009 г.) / [навуковы рэдактар: Н. М. Усава]. — Мінск: Медысонт, 2013. — 244 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 200 экз. — ISBN 978-985-7085-13-2.

### Выданні для моладзі. Дзіцячая, юнацкая літаратура

**Геращенко, А. Е.** Достославный Симеон: [для среднего и старшего школьного возраста] / Андрей Геращенко. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 16 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0595-9.

**Гончарова, Н. А.** Античные и библейские афоризмы: с культурологическим комментарием / Н. А. Гончарова, М. Г. Антонюк. — Минск: Белорусская ассоциация «Конкурс», 2013. — 207 с. — На переплете: победителю игры-конкурса по иностранным языкам «Лингвистенок-2013». — 12600 экз. — ISBN 978-985-557-051-7 (в пер.).

**Лауцюс, Я.** Зеленые клады Энергограда / Яронимас Лауцюс, Виктория Гулько. — Минск: Мастацкая літаратура, 2013. — 22 с. — (Азбука бережливости). — 2500 экз. — ISBN 978-985-02-1493-5.

**Маленькие истории по безопасности:** раскраска / Министерство по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь. — Минск, 2014. — 12 с. — 3000 экз.

**Мать-и-мачеха:** [для младшего школьного возраста / составитель Т. И. Жуковская]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 14 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0765-6.

**Минск:** [для среднего и старшего школьного возраста / составитель С. И. Молчан]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 32 с. — Часть текста на белорусском языке. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0722-9.

**Рассказ об отходах:** справочно-информационные материалы: [для школьников] / Минский городской комитет природных ресурсов и охраны окружающей среды, МОО «Экопроект Партнерство»; [автор текста, составитель: Н. А. Андреенко; редколлегия: Н. А. Андреенко и др.]. — Минск: Альтиора — Живые Краски, 2013. — 20 с. — 450 экз. — ISBN 978-985-7073-27-6.

**Только для девочек!** / [составители: Н. М. Кособуцкая, Е. В. Комарова, Е. Н. Романицкая; под общей редакцией Е. Н. Романицкой]. — 7-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2013. — 79 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-520-846-5.

**Только для мальчиков!** / [составитель С. Ф. Медведская; под общей редакцией Е. Н. Романицкой]. — 6-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2014. — 66 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-520-847-2.

**Цеханский, С. П.** Что? Зачем? Почему?: 1-я книга любознательных малышей: [для младшего и среднего школьного возраста] / С. П. Цеханский. — Москва: АСТ, 2014. — 319 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-078636-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2668-7 (Харвест) (в пер.).



***Нарысы гісторыі культуры Беларусі: у 4 т. / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, Філіял «Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ім. Кандрата Крапівы»; [навуковы рэдактар А. І. Лакотка]. — Мінск: Беларуская навука, 2013— — ISBN 978-985-08-1566-8 (у пер.).***

***Т. 1: Культура сацыяльнай эліты XIV — пачатку XX ст. / [А. І. Лакотка і інш.]. — 2013. — 573 с. — Аўтары таксама: Барышаў Г. І., Бохан Ю. М., Бялявіна В. М., Внуковіч Ю. І., Грунтоў С. У., Захаркевіч С. А., Каспяровіч Г. І., Лазука Б. А., Мілючэнкаў С. А., Навагродскі Т. А., Плавінскі М. А., Ракава Л. В., Федарук А. Т., Чаквін І. У., Шыдлоўскі С. А., Ярмалінская В. М. — 1500 экз. — ISBN 978-985-08-1567-5.***

*Шляхецкая культура, якая стала каштоўнай спадчынай беларусаў, яе паходжанне, фарміраванне і развіццё аказаліся ў цэнтры ўвагі аўтараў першага тома выдання «Нарысы гісторыі культуры Беларусі». Кніга складаецца з трынаццаці раздзелаў, што асвятляюць розныя аспекты матэрыяльнай культуры прывілеяванага саслоўя: магнацкія і шляхецкія маёнткі, культуру побыту, шляхецкі касцюм, транспартныя сродкі, зброю, даспехі і вайсковыя сродкі, традыцыі харчавання, сімволіку старажытных паркаў, прыватнаўласніцкі тэатр, вытворчыя пабудовы, традыцыі агародніцтва, жывёлагадоўлю, мемарыяльныя помнікі. Цікавыя тэксты, напісаныя вядучымі спецыялістамі галіны, суправаджаюцца мноствам ілюстрацый.*

## Мастацкая літаратура на асобных мовах

### Англійская літаратура

**Голсуорси, Д.** Сага о Форсайтах / Джон Голсуорси; [вступительная статья Н. Дьяконовой; перевод с английского под общей редакцией М. Лорие]. — Москва: АСТ, 2014. — 856 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1500 экз. — ISBN 978-5-17-072541-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2644-1 (Харвест) (в пер.).

**Голсуорси, Д.** Сага о Форсайтах / Джон Голсуорси; [вступительная статья Н. Дьяконовой; перевод с английского под общей редакцией М. Лорие]. — Москва: АСТ, 2014. — 856 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-081117-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2643-4 (Харвест) (в пер.).

**Хейр, С.** Загадочная смерть; Когда дует ветер: [сборник] / Сирил Хейр; [перевод с английского В. Рейн, Н. Нестеровой]. — Москва: АСТ, 2014. — 444 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-081520-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2675-5 (Харвест) (в пер.).

**Хор, Р.** Тайник: [роман] / Рейчел Хор; [перевод с английского Т. Перцевой]. — Москва: АСТ, 2014. — 414 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-081061-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2752-3 (Харвест) (в пер.).

### Літаратура ЗША на англійскай мове

**Берроуз, Э. Р.** Тарзан: [романы] / Эдгар Райс Берроуз; [перевод с английского А. Мартьяновой, С. Эмден]. — Москва: АСТ, 2014. — 605 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-080957-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2688-5 (Харвест) (в пер.).

**Брэдли, С.** Когда она сказала «да»: роман / Селеста Брэдли; [перевод с английского Т. А. Перцевой]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079569-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2726-4 (Харвест) (в пер.).

**Кинг, С.** Бесплодные земли: из цикла «Темная Башня» / Стивен Кинг; [перевод с английского Т. Покидаевой]. — Москва: АСТ, 2014. — 605 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-083370-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2684-7 (Харвест) (в пер.).

**Коллинз, С.** Сойка-пересмешница: [роман] / Сьюзен Коллинз; [перевод с английского А. Шипулина, М. Головкина]. — Москва: АСТ, 2014. — 415 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-082047-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1214-7 (Харвест) (в пер.).

**Коннелли, М.** Пятый свидетель: [роман] / Майкл Коннелли; [перевод с английского И. Я. Дорониной]. — Москва: АСТ, 2014. — 509 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3500 экз. — ISBN 978-5-17-079392-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2750-9 (Харвест (в пер.).

**Марч, М.** Время прощать: [роман] / Миа Марч; [перевод с английского Е. Дод]. — Москва: АСТ, 2014. — 446 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-081721-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2657-1 (Харвест) (в пер.).

**Мур, К.** Любовь и долг: роман / Кейт Мур; [перевод с английского А. О. Сизова]. — Москва: АСТ, 2014. — 253 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079419-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2728-8 (Харвест) (в пер.).

**Паланик, Ч.** Удушье: [роман] / Чак Паланик; [перевод с английского Т. Покидаевой]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-081138-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2671-7 (Харвест) (в пер.).

**Рэндол, А.** Грехи девственницы: роман / Анна Рэндол; [перевод с английского Е. А. Ильиной]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-083061-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2727-1 (Харвест) (в пер.).

**Смит, Б. Д.** Ее тайная связь: роман / Барбара Доусон Смит; [перевод с английского А. А. Соколова]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-081675-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2737-0 (Харвест) (в пер.).

**Хоук, К.** В поисках тигра: [роман] / Коллин Хоук; перевод с английского Вероники Максимовой. — Москва: АСТ, 2013. — 605 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-082687-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2661-8 (Харвест) (в пер.).

**Хоук, К.** Проклятие тигра: [роман] / Коллин Хоук; перевод с английского Вероники Максимовой. — Москва: АСТ, 2013. — 508 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-082686-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2664-9 (Харвест) (в пер.).

**Эссекс, Э.** Дыхание скандала: роман / Элизабет Эссекс; [перевод с английского Н. Н. Аниськовой]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-080024-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2736-3 (Харвест) (в пер.).

### Нямецкая літаратура

**Ремарк, Э. М.** Приют грез: [роман] / Эрих Мария Ремарк; [перевод с немецкого Е. Михелевич]. — Москва: АСТ, 2014. — 284 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-071518-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2685-4 (Харвест) (в пер.).

**Хюнерманн, В.** Слуга прокаженных: повесть о св. Дамиане де Вестере / Вильгельм Хюнерманн; [перевод А. Кузнецова]. — Гродно: Гродненская епархия Римско-католической Церкви в Республике Беларусь, 2013. — 292 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6940-42-5.

### Партугальская літаратура

**Ассиз, М.** де. Записки с того света = Memórias póstumas de brás cubas : роман: двуязычное издание Посольства Бразилии в Минске / Машадо де Ассиз; перевод с португальского [Елены Голубевой и Инны Чежеговой]. — Минск: Ковчег, 2013. — 430 с. — Переплет параллельно на русском и португальском языках. — Текст параллельно на португальском и русском языках. — 500 экз. — ISBN 978-985-7055-35-7 (в пер.).

### Бразільская літаратура на партугальскай мове

**Коэльо, П.** Алхимик: [роман] / Пауло Коэльо; [перевод с португальского А. Богдановского]. — Москва: АСТ, 2013. — 220 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-077583-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2757-8 (Харвест) (в пер.).



***Гейман, Н. Дым и зеркала: [сборник] / Нил Гейман; [перевод с английского Н. Иванова]. — Москва: АСТ, 2013. — 381 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-082533-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2674-8 (Харвест) (в пер.).***

*У творчасці папулярнага англійскага пісьменніка Ніла Геймана можна вылучыць некалькі яркіх складнікаў: аптымістычна-песімістычная казачнасць (усё заканчваецца кепска, але надзея на лепшае яшчэ ёсць), змрочнасць (амаль як у Кінга), моцны міфалагічны пачатак і надзвычайная кінематаграфічнасць сюжэтаў. Таму і гэтае выданне — не выключэнне. Мноства кароткіх апавяданняў, вершаў, аповесцей запрашае чытача ў дзіўны свет, дзе ёсць месца традыцыйным забабонам, лаўкрафтаўскім жахам, біблейскім сюжэтам. Сумна не будзе. Страшна — абавязкова.*

### Руская літаратура

**Борисова, А.** Там...: роман в 3 актах / Анна Борисова. — Москва: АСТ, 2013. — 316 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-077038-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-0849-2 (Харвест) (в пер.).

**Вайнер, А. А.** Место встречи изменить нельзя: [романы] / Аркадий и Георгий Вайнеры. — Москва: АСТ, 2013. — 700 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-082721-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2667-0 (Харвест) (в пер.).

**Вигдорова, Ф. А.** Девочки: дневник матери / Фрида Вигдорова. — Москва: АСТ, 2013. — 347 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-080022-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2593-2 (Харвест) (в пер.).

**Грин, А. С.** Бегущая по волнам: роман, рассказы / А. С. Грин; [составитель О. В. Спринчан]. — Минск: Мастацкая літаратура, 2013. — 333 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1291-7.

**Ланска, Е.** Жена пРезидента: [роман] / Ева Ланска. — Москва: АСТ, 2013. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079310-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2712-7 (Харвест) (в пер.).

**Мишина, О.** Кольцо для девушки с петардой / Ольга Мишина. — Минск: Букмастер, 2014. — 285 с. — 2250 экз. — ISBN 978-985-549-555-1 (в пер.).

**Сашнева, А.** Танго с ветром / Александра Сашнева. — Минск: Букмастер, 2014. — 279 с. — 2550 экз. — ISBN 978-985-549-718-0 (в пер.).

# Разминка для ума

**Душой детских детективов, так же, как и взрослых, является расследование преступления — таинственного исчезновения или коварной интриги. Хорошая книга, даже такого «лёгкого» жанра, приносит только пользу — учит ребёнка рассуждать логически, анализировать, быть внимательней к деталям, решать любые жизненные задачи и разбираться в людях.**




## Призрачный квартет

**Книга Софи Марво «Истории с привидениями: Мумия Фараона. Сокровища Жёлтой Бороды» (в пересказе Кати Матюшкиной), вышедшая в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», включает две сказки о таинственных призраках и перемещении в прошлое.**

Интригует уже начало истории: «Вдалеке от дорог, в самом сердце дремучего леса прячется старый-престарый замок, огромный, загадочный и тёмный — Замок Теней». Атмосфера накаляется ещё больше, стоит лишь взглянуть на удивительно объёмные и красочные иллюстрации Селин Папазян. Следуя правилам этикета или просто для того, чтобы не вводить маленьких читателей в заблуждение, автор сразу же знакомит их с героями книги. Клео — веселая, спортивная и любопытная девочка, которая безумно любит приключения, умеет без труда взбираться на высокие деревья, плавать, обгоняя волны, и проводить расследования, задавая кучу вопросов. Гродо — собака Клео, дворняга — умный, как такса, быстрый, словно гончая, не менее сильный, чем ротвейлер, ласковый, будто лабрадор. Чудо, а не животное! И, наконец, Бальтазар — самый умный на свете мальчик, который обожает размышлять и читать.

Сюжет строится вокруг историй из жизни призраков Замка Теней. Каждую ночь они вынуждены бродить по холодным, как лёд, залам, «мучительно и безнадёжно поглядывая на тяжёлые гири» на своих прозрачных ногах. «Когда они были живыми людьми, каждый из них совершил серьёзную ошибку». Воспоминания не дают им улететь в Страну Блаженного Покоя, надо ждать освобождения…

Несложно догадаться, что на помощь приходят Клео, Бальтазар и Гродо, которым приходится переместиться сначала во времена Древнего Египта, во дворец фараона, помогая мальчику найти свою семью, а потом в XVII век, к пиратам, избавляя капитана по кличке Жёлтая Борода от двух губительных пороков: жадности и лживости.

Книга «Истории с привидениями» не только захватывает, но учит детей верить в свои силы, всегда оставаться на стороне добра, быть преданными друзьями и уметь прощать.

## Рыжий хвост идёт на помощь

**Забавный рыжий комок шерсти, упавший с луны, с огромным, как у клоуна, красным носом, умной улыбкой и зелёными глазами… Кто бы это мог быть? На Гарфилда, ленивого и толстого, не похож, на коварного хитреца, живущего на деревьях, созданного Льюисом Кэроллом, тоже. Да ведь это главный герой серии сказочных повестей Кати Матюшкиной!**




Книга «Кот да Винчи против кошмарно-ужасного Зызы», вышедшая в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», — детский детектив, герои которого, обитатели Звериного города, умеют расследовать самые сложные преступления!

Кот да Винчи, гений и герой, сталкивается с проделками неуловимого и опасного преступника — противной фиолетовой мыши по имени Зыза. Разумеется, без преданных друзей пушистый сыщик ни за что бы не справился с тремя запутанными, почти как у Агаты Кристи, делами, о которых рассказывается в книге. Персонажи Кати Матюшкиной немного типичные для сказок о животных, но очень колоритные и абсолютно не похожие друг на друга — отважные мышата Пик, Бубуша и Чуча, мудрая белка Бряка, добродушный ёжик Агась, гордая и самовлюблённая сова-графиня Угуха и азартная охотница за сенсациями курица Кудаха.

Вначале фабула книги закручивается вокруг похищения из местного музея знаменитой картины-загадки, «ключа» к необычайным сокровищам. Интересно, что главный злодей в ходе повествования находится буквально в двух шагах от героев, и его никак нельзя заподозрить в краже! Затем исчезает карта сокровищ, а позже кот да Винчи и его товарищи сталкиваются с нешуточной голливудской фантастикой. В один прекрасный день в Зверином городе начинается ураган, из тучи вылетает пиратский корабль, окружённый рыбами и морскими звёздами. Кошмарское море, которое славится своими чудовищами и непредсказуемой погодой, морской волк Светофор Клумба, его первооткрыватель, далёкий остров А-без-Яна, страшная кабаниха-пиратка Мама Боча, «Летучий голодранец» — фантазия автора основывается на уже давно известных мотивах, но рассказ всё равно увлекает.

Автор умеет общаться с детьми на их языке, придумывая и вкрапляя в текст своих произведений просто уморительные слова, среди которых — «лапоплескание», «сово-мобиль», «Микки-маус-ланджело», «Кряк-спир», «Зызаловитель». Кстати, Катя Матюшкина не только писательница, но и художник — свои книги она иллюстрирует сама, создавая тем самым поистине волшебную вселенную. Кроме того, к рисункам в книге много весёлых подписей и заданий, которые будто бы гипнотизируют: «Прочитай страничку!» Поэтому даже самому непоседливому ребёнку сложно будет устоять.

## Юный Шерлок

**Ловко спланированный обман, захватывающая дух погоня, хитроумные жулики и другие нешуточные опасности — всё это уместилось в книге Юрия Коваля «Приключения Васи Куролесова», вышедшей в издательстве «Русич» при поддержке ООО «Харвест».**

Главный герой повести живёт в деревне вместе с мамой, учится на механизатора, часами сидит над книжкой с мощным названием «Трактор», но всей душой, как и любой мальчишка, мечтает влипнуть в головокружительную историю. Мама отправила его на рынок за поросятами. Казалось бы, что может быть проще: пришёл, выбрал, купил. Но нет, то ему пятачки не подходят, то усы продавца не нравятся. В итоге вместо домашних животных незадачливому парнишке подсовывают… неприглядного рыжего щенка. Правда, смелости Васе не занимать, парень начинает настоящее расследование.




Многие дети и подростки тайно желают хоть раз побывать на месте сыщика, подобного Шерлоку Холмсу, — проницательного, бесстрашного. Отождествляя себя с персонажем книги, юным детективом, они как будто сами распутывают сюжет, моментально увлекаются его интригой, погружаясь в водоворот событий. Главное при этом — не упустить ни одной детали! Притягательность повести добавляет стиль автора, каждое слово которого и без витиеватых метафор бьёт в точку, воссоздавая в голове яркие образы происходящего.

Завершает издание краткий словарик на все случаи жизни, составленный писателем. Например, из него можно узнать, что козы не имеют никакого отношения к производству казеинового клея, а цвет под названием «маренго» выглядит вовсе не экзотично, всего лишь как строгая и сдержанная чёрно-серая смесь. Словом, самых разных и весьма любопытных фактов в книге столько, что интерес не угаснет, пока не будет перевёрнута последняя страница.

## Волшебники XXI века

**Накануне Нового года всегда случаются чудеса. Книга Елены Смоленской «Фрякины бяки», вышедшая в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», — прекрасное тому доказательство.**

Повесть напоминает компьютерную игру, где каждая глава — новый уровень. Вот такой любопытный подход к завоеванию читателей выбрала автор. Ребёнок знакомится с сюжетом и попутно разгадывает задачки: проводит героев по заснеженному лабиринту, подсчитывает воздушные шарики, собирает из спичек нужные фигурки. Но главная его цель — победить старую ведьму Фряку, которая превратила доброго волшебника Чвика в крохотную и беззащитную белку. Чародейка, надо сказать, продвинутая: заклинания хранит не в затхлых пыльных сундуках — на ноутбуке, в особом файле.

Читателю по ходу сюжета помогают два друга, мальчик Петька и девочка Тишка, к которым подключается волшебник Чвик. Техническое оснащение у них ничуть не хуже ведьминого: зеркало-мониторчик со спутниковой связью и клавиатурой для ввода команд, чудесное неоновое яблочко на электронной тарелочке — универсальный навигатор в Волшебном лесу.

Финальное сражение в конце повести покажет читателю, что быть героем, особенно в современных условиях, — весьма сложное призвание.

**Мария ВОЙТИК**

## Аднагачаснікі



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# Валодзя

Каля труны ў жалобнай зале яго бацька, пастарэлы, але па-ранейшаму прыгожы мужчынскай суровай прыгажосцю, ціха прамовіў:

— Ты мог уявіць, Навум, што мы будзем так вось хаваць твайго сябра і майго сына?

Валодзю, здаровага, вясёлага, я бачыў усяго некалькі дзён таму. Смерць яго, такая нечаканая і недарэчная (ды хіба бывае дарэчная смерць?) прывяла ў глыбокі шок не толькі мяне. Дырэктар Наваполацкага філіяла Маскоўскага навукова-даследчага інстытута паехаў са сваім калектывам за горад адзначаць прафесійнае свята. Не паспелі размясціцца, як жанчыны закрычалі, што на тэрыторыі базы да іх прыстае нейкі п'яны хуліган.

Высокі, стройны Казлоў, выдатны спартсмен, баксёр, рашуча выйшаў з пакоя і, не паспеўшы слова сказаць, паслізнуўся ў модных чаравіках на мокрай траве, упаў і ўдарыўся скроняй аб бардзюр…

Ён прыйшоў да нас у чацвёрты клас, акуратны, прыгожы, у скураной куртачцы, якая стала потым прадметам зайздрасці аднакласнікаў. Бацька яго, афіцэр, прыехаў у родны горад пасля дэмабілізацыі і прывёз з сабой сям'ю.

Мы з Валодзем пасябравалі вельмі хутка. Я стаў часта бываць у яго дома, ён — у мяне. Мы захапляліся аднымі кнігамі, марылі пра падарожжы, абменьваліся маркамі.

Менавіта з ім мы арганізоўвалі смешнае «тайнае таварыства» пасля прачытання кніжкі Янкі Маўра, і нам, чацвёртакласнікам, ледзь не прышылі справу, а на той час гэта магло быць абсалютна сур'ёзна. Памятаю, як па адным выклікалі да дырэктара школы ў кабінет і там чалавек у цывільным падазрона распытваў, чым нас не задавальняе піянерская арганізацыя.

Потым бацькі Валодзі пераехалі жыць у цэнтр горада, ён памяняў школу, але сустракацца мы не перасталі.

Разам хацелі паступаць у вучылішча на ваенных журналістаў. Ды я не прайшоў камісію, а Валодзя паступіў. Праўда, пасля першага курса кінуў, пайшоў служыць радавым, а пасля стаў студэнтам Маскоўскага інстытута міжнародных адносін, куды звычайнаму абітурыенту ў Савецкім Саюзе паступіць было практычна немагчыма.

Майго сябра чакала бліскучая кар'ера, але ён папрасіўся, каб яго размеркавалі ў родны горад, і такім чынам трапіў у парткам вытворчага аб'яднання «Палімір».

Гэта ён мяне ўгаварыў перайсці з рэдакцыі полацкай газеты на прадпрыемства кіраўніком мясцовага радыёвяшчання і, калі працавалі разам, падтрымліваў у любой сітуацыі.

Валодзя быў ідэалістам, верыў, што яго выбар на карысць роднага горада, бліскучая адукацыя, арганізацыйны талент дазволяць хутка знайсці сваё месца ў высокіх эшалонах улады, але бліскучай кар'еры не атрымалася.

Пасля некаторых сярэдніх чыноўніцкіх пасад ён заняў тое апошняе, як аказалася, месца працы. Марыў заняцца навукай, пісаў апавяданні. Ён падабаўся жанчынам, быў сваім у любой кампаніі і, здавалася, не сумняваўся, што жыццё падорыць яму яшчэ нямала светлага і прыгожага…

Сёння пра Валодзю Казлова ўзгадаюць хіба толькі тыя, хто ведаў яго блізка.

У тым ліку я, бо ён быў маім сябрам.

# Замураваная фея

## Паэзія вачыма Гарыет Манро і Вацлава Ластоўскага



**Тэма ролі паэта і паэзіі ў грамадстве ва ўсе часы хвалявала як саміх творцаў, так і літаратуразнаўцаў, публіцыстаў. Асабліва актуальным гэтае пытанне становіцца ў знакавыя моманты, што вызначаюць ход далейшага развіцця літаратуры. Адмаўляць традыцыю ці прытрымлівацца яе? Як выпрацоўваць стыль? Ці адгукацца творцам на выклікі часу? На гэтыя важныя пытанні спрабуюць знайсці адказы паэты (хутчэй для сябе), крытыкі і публіцысты (для шырокага грамадскага абмеркавання).**



Пачатак XX стагоддзя стаў вызначальным у развіцці беларускай і амерыканскай літаратуры. Менавіта ў гэты час фарміраваліся асноўныя законы нацыянальнай школы літаратурна-мастацкай творчасці. Таму творчае жыццё кожнай з краін трэба было прывесці ў парадак, даць арыенціры далейшага развіцця. Ролю арганізатара літаратурнага працэсу ў ЗША выконвалі так званыя маленькія часопісы — незалежныя выданні, дзе друкавалася шмат вершаў, сучаснай кароткай прозы і разваг на тэмы мастацтва. У Беларусі ж гэтая функцыя была ўскладзеная на ўніверсальную газету «Наша ніва», дзе побач з парадамі для пчаляроў і маладых гаспадынь можна было пабачыць досыць сур'ёзныя публіцыстычныя артыкулы пра паэзію ці ролю мастацтва. Як ні дзіўна, але думкі амерыканскіх і беларускіх крытыкаў у гэтых праграмных артыкулах сугучныя. Разгледзім, да прыкладу, меркаванні амерыканскай паэткі, выдаўца, даследчыцы, заснавальніцы і галоўнага рэдактара часопіса *Poetry* Гарыет Манро і беларускага пісьменніка, публіцыста, даследчыка Вацлава Ластоўскага.

На старонках часопіса *Poetry* ужо ў першыя гады яго існавання склалася добрая завядзёнка. Тут напрыканцы кожнага выпуску побач з рэцэнзіямі на новыя кнігі друкаваліся «Каментарыі рэдакцыі». Часта гэта былі тэарэтыка-літаратурныя допісы, што маглі дапамагчы маладым творцам выпрацаваць уласны стыль і пашырыць кругагляд. Пісалі іх сталыя паэты з імем, напрыклад Эмі Лоўэл ці Эзра Паўнд. Асабліва каштоўнымі з ліку такіх каментарыяў падаюцца тэксты галоўнага рэдактара выдання Гарыет Манро. Гэта водгукі не толькі на матэрыялы часопіса, але і на творы, што засталіся «па-за кадрам» і, напэўна, ніколі не былі надрукаваныя.

Так, у красавіку 1913 года ў артыкуле «Новая прыгажосць» спадарыня Манро піша: «З таго вялікага мноства паэтычных зборнікаў, што мы атрымалі цягам апошніх паўгода, большая частка — гучна прастадушныя з пункту гледжання інтэлектуальнасці. Шматлікія кнігі і яшчэ большая колькасць рукапісаў назойліва звяртаюцца да тэмы часу і космасу, у той жа час падаецца, што іх аўтары не ведаюць пра тое, што пачалося XX стагоддзе. Ствараецца ўражанне, што яны прабавілі апошнія гады ў Елізавецінскіх асабняках ці абвітых лазой Віктарыянскіх дамах».

Даследчыца падкрэслівае, што гэтае сцвярджэнне правільнае нават у дачыненні да тых паэтаў, якія падтрымліваюць мадэрнізм, рыфмуючы трушчобы і стачкі ці маралізуючы на актуальныя сацыяльныя, палітычныя тэмы ў парывістых одах або яшчэ больш узрушаных белых вершах. «Гэта пытанне не тэмы і нават не формы, — заўважае яна, — гэта пытанне новай прыгажосці, што мусіць натхняць кожнага мастака, які адчувае час. Паэт — не паслядоўнік, але лідар; ён паэт не таму, што можа рыфмаваць словы ці часткова выказваць актуальныя думкі, але таму, што новая прыгажосць — гэта бачанне ў яго вачах і страсць у сэрцы. Ён павінен напружваць кожнае сухажылле свайго духу, каб паказаць гэтае бачанне свету».

Тэхніка дасягнення мэты — стыль, які творца выпрацоўвае з вясёлай лёгкасцю ці з больш-менш балючымі высілкамі (у адпаведнасці з тэмпераментам), не павінен задавальняць паэта да таго часу, пакуль ён не будзе супадаць з прыгажосцю гэтага бачання.

Падобнае меркаванне выказвае ў ліпені 1913 года на старонках «Нашай нівы» Вацлаў Ластоўскі. Яго артыкул «Сплочвайце доўг», апублікаваны пад псеўданімам Юркі Верашчакі, і стаў пачаткам той вядомай «дыскусіі 1913 года». Вось што піша В. Ластоўскі:

«Мяне цікавіць не тое, што Янка сядзіць на вузкім шнурочку зямлі, але больш таго — што гэты Янка чуе ў той момант. Калі ён поўнымі грудзямі хапае пах чорнай, парэзанай плугам на скібы зямлі, як яго лянівы мозг вашушыцца, калі сахой разразае прадзедаўскі курган, што кажа душа прадзедаў, як іхнія косці збіраюць праўнукі, каб прадаць у фабрыку суперфасфату». Тут мы бачым і сугучча з актуальнымі пытаннямі часу, і рэалістычнасць падзей, і асабістае ўспрыманне іх лірычным героем.

«Маё штодзённае жыццё шэрае і цяжкае, і я хачу з вашых твораў навучыцца бачыць каля сябе красу, каторую я чую, што яна ёсць, але мая душа не так чутка, каб улавіць яе», — а вось гэта ўжо тая самая «новая прыгажосць», пра якую піша Гарыет Манро. Менавіта паэт здольны яе ўбачыць, адчуць і знайсці сродкі адлюстраваць на паперы. Г. Манро называе паэта лідарам, і В. Ластоўскі падтрымлівае гэтае меркаванне: «Паэт павінен быць вучыцелем і прарокам свайго народа, павінен быць суддзёй і цветам душы яго, павінен выяўляць красу свайго народа і краю».

Надзвычай актуальным у пачатку XX стагоддзя было стаўленне да вызначэння ролі мастацтва, а таксама выкарыстанне традыцыйных формаў для ўвасаблення новых ідэй і апісання рэалій сучаснасці. Гарыет Манро піша: «Гэта настолькі відавочна, што часта забываецца. Мастацтва ў цэлым і паэзія ў прыватнасці лічацца ўпрыгожаннем жыцця, але не самім пульсам, біццём сэрца, непазбежным, як усход сонца ці кветка. З'яўляючыся ўпрыгожаннем, яно становіцца пабочным прадметам, чымсьці староннім, сродкамі задавальнення фантазій ці ўзорамі прыгожага, што можна ўзяць у мінулым і мадыфікаваць для выкарыстання сёння».

Вырatаванне для амерыканскай паэзіі даследчыца лічыць адмаўленне ад еўрапейскіх традыцый. Гарыет Манро сцвярджае, што паэты павінны звяртаць менш увагі на старыя формы, якія зусім знасіліся цягам пяці стагоддзяў росквіту англійскай песні. Лепш вярнуцца да старых прынцыпаў — успрымаць паэзію як нешта новае, а кожнага творцу — першым складальнікам рытмічных ланцужкоў на англійскай мове. Варта ставіцца да мовы так, нібыта ты толькі цяпер пачаў яе вывучаць — як замежнік, што адкрывае для сябе прыгажосць новых слоў, спалучэнняў і таму можа ствараць проста неверагодныя вобразныя канструкцыі.

Для беларускіх паэтаў пытанне адмаўлення ад еўрапейскіх традыцый стаяла не так востра. Нам патрэбна было не ствараць новую рэальнасць, а паставіць уласную мастацкую творчасць у адзін шэраг з іншымі нацыянальнымі літаратурамі. Без падтрымкі моцных, сталых формаў, толькі на грунце новай вобразнасці і навізны абыходжання з мовай (чаму нашым творцам не патрэбна было вучыцца) дасягнуць гэтага было амаль немагчыма. «Мы, чытаючае і думаючае беларускае грамадзянства, у праве вымагаць чагось для сваёй душы, — піша Вацлаў Ластоўскі, — мерыць іхню творчасць меркай еўрапейскай, якую прыкладаюць усе народы на свеце да творчасці сваіх прарокаў».

Ва ўмовах развіцця беларускай паэзіі еўрапейская традыцыя не мела столькі негатыўнага ўплыву, як амерыканская. Гарыет Манро ў артыкуле «Традыцыя» ў маі 1913 г. зазначае: «Традыцыя, што мае на мэце захаванне формы, — не для моцных, але для слабых. Яна трымацца на тых, каму патрэбна дапамога, хто не можа выстаяць у адзіноце». Пагадзіцеся, для беларускай паэзіі пачатку XX стагоддзя гэта была вельмі добрая падтрымка, што дазволіла сродкамі старых формаў выказаць новыя на той час думкі, актуальныя для беларускага народа і для маладой літаратуры.

«Традыцыя, якой бы вялікай і моцнай яна ні была, падаецца неактуальнай у той момант, калі яе сцены дастаткова моцныя, каб паламаць крыло матылька ці трымаць фею ў муры», — сцвярджае Г. Манро. Амерыканскія паэты змаглі вырвацца з цямніцы і стварыць новыя ўмовы для існавання і развіцця. Але падаецца, што беларускія творцы, атрымаўшы добрую дапамогу і падтрымку ў пачатку XX ст., надта звыкліся з зацішнасцю сцен камяніцы і зусім не хочуць іх разбураць. Нават цяпер, праз стагоддзе.

Марына ВЕСЯЛУХА

**Многія з нас, напэўна, памятаюць радкі з «Дзяніскавых апавяданняў» В. Драгунскага: «І яшчэ тым разам я ўсё больш глядзеў на аркестр, як яны граюць — хто на барабане, хто на трубе, — і дырыжор махае палачкай, і ніхто на яго не глядзіць, а ўсе граюць як хочуць» («Дзяўчынка на шары»). Людзі сталеюць і разумеюць, што ў жыцці ўсё сур'ёзна, але не кожны патрапіць адказаць, якія функцыі выконвае дырыжор. З гэтага і пачалася размова з Марынай Траццяковай, дырыжорам Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра.**

# Марына ТРАЦЦЯКОВА: «Дырыжор павінен мець моцную энергетыку»

**— Кожны спецыяліст вылучае ў сваёй працы штосьці асабліва значнае. На вашу думку, што галоўнае ў прафесіі дырыжора?**

— Дырыжор — гэта лідар, які вядзе за сабой калектыў. Вядома, твор выконваецца найперш для слухача, але дырыжор бачыць перад сабой выканаўцаў, якіх трэба захапіць уласнай ідэяй, зрабіць аднадумцамі. Калі хочаш, каб была аддача, каб людзі з табой працавалі, трэба выкладацца, аддаваць шмат сіл і на рэпетыцыях, і на канцэрце. Дырыжор павінен быць яркім, эмацыянальным, мець моцную энергетыку. Да таго ж, перад тым як брацца за новы твор, дырыжору трэба разабрацца з эпохай, стылем, даведацца пра ўмовы, у якіх ён выконваўся, паслухаць аўдыязапісы, пагартаць адпаведную літаратуру. Так, калі мы рыхтавалі музычную камедыю «Аршын мал алан», давялося пазнаёміцца з культурай Азербайджана, высветліць, як там спяваюць і граюць. Мне падабаецца ў гэтым разбірацца, вывучаць новую краіну альбо гістарычны перыяд.

**— Чаму жанчыны рэдка становяцца дырыжорамі? Ці сутыкаліся вы з адмысловымі праблемамі, якіх не мелі б мужчыны?**

— Дырыжор — гэта адзінкавы спецыяліст. У Беларускай акадэміі музыкі звычайны выпуск — адзін-два студэнты, і каб падрыхтаваць спецыяліста, патрэбна шмат працы. Жанчыны-дырыжоры часта губляюцца ў хатніх, сямейных справах, знікаюць, не працуюць па спецыяльнасці — і не апраўдваюць навучання (гэта меркаванне прагматычных кіраўнікоў навучальных установы). Пры паступленні ў БАМ на аддзяленне «Оперна-сімфанічнае дырыжыраванне» я сутыкнулася са скептычным стаўленнем членаў прыёмнай камісіі, што не дадавала энтузіязму на іспытах. І надалей стаўленне калег не заўсёды аднназначнае… Магчыма, жанчынам не хапае сілы волі, каб пераадолець нейкія цяжкасці і застацца ў прафесіі. У мяне таксама былі складаныя моманты: напрыклад, калі ў 90-я гады я працавала ў Херсоне, нейкі час нам наогул не плацілі заробку. Тады і давялося вярнуцца ў Мінск.

**— Якую музыку вам найбольш падабаецца выконваць?**

— Прафесіянал, як вядома, можа ўзяцца за любую музыку. Я люблю эпоху рамантызму. Так, у творах некаторых кампазітараў былі паўторы, перапевы, але гэта музыка складаная, меладычная. Эмацыянальная сфера такіх кампазітараў, як П. Чайкоўскі, М. Рымскі-Корсакаў, М. Мусаргскі, Ф. Шапэн, Р. Шуман, І. Кальман, Ф. Легар, Ж. Афенбах, для мяне блізкая, я яе добра адчуваю. Гэта нядзіўна — больш складана ў класіцызме знайсці нейкі лірычны момант. Можа быць, гэта жаночае, можа быць, уласная лірычная скіраванасць…

**— Як ідзе праца ў спектаклях? Ваша імя як дырыжора, напрыклад, пазначана ў спектаклі «Соф'я Гальшанская»…**

— У «Соф'і Гальшанскай» я была другім дырыжорам. Гэта цікавая работа, сёння даволі знакавая, бо заснавана на беларускай тэматыцы, беларускім матэрыяле. Такія творы неабходныя, бо ў рэпертуары тэатра павінна быць штосьці нацыянальнае, твор, які быў бы нашым абліччам, які можна вазіць на гастролі, каб паказаць беларускую культуру. Музыка Уладзіміра Кандрусевіча ў нашым тэатры ўжо гучала — згадаем мюзіклы «Шклянка вады», «Джулія», балет «Мефіста». «Соф'я Гальшанская» — таксама мюзікл, і драматургія тут вельмі ўмоўная. Публіка, магчыма, да гэтага прызвычаілася — каб не вельмі «замарочвацца». Ёсць проста набор падзей — сюжэт, які ўвасабляецца без унутранага развіцця і музычна апраўдваецца. Ён патрэбны, каб зрабіць музычныя нумары, якія сталі б хітамі, якія запаміналіся б публікай, лёгка кладліся на вуха — гэткага песеннага кшталту. Так працуюць многія, напрыклад, Кім Брэйтбург, які рабіў з намі «Блакітную камею», а цяпер «Дуброўскага» — разам са студэнтамі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

Адзін з новых твораў, над якім я працавала ў якасці дырыжора-пастаноўшчыка, — «Сон Дон Кіхота» па аўтарскім лібрэта народнага артыста Беларусі Уладзіміра Іванова. Гэта сур'ёзная работа, якая прываблівае менавіта эмацыянальным развіццём. Першае дзеянне — балетная драматургія: балетмайстар імкнецца праявіцца ў балеце так, як гэта магчыма з тэатральнымі акцёрамі. Другое дзеянне — балетны дывертысмент. Цікава, што музыка падкладваецца пад сюжэт, яна патрэбна, каб выявіць сюжэтнае, драматургічнае развіццё. Таму мы крыху падрабілі пад сябе Л. Мінкуса, змянілі нейкія тэмпы, паслядоўнасць, дадалі ўстаўныя нумары.

**— У чым, на вашу думку, асаблівасці музычнага жыцця ў нашай краіне? Чаго бракуе?**

— Мне б хацелася, каб было больш таго, што здзіўляе, натхняе, уражвае: каб да нас прыязджалі на фестывалі, прывозілі цікавыя тэатральныя пастаноўкі, канцэртныя праграмы. Абмен досведам, знаёмства з лепшымі творамі і выканаўцамі іншых краін патрэбна для таго, каб ведаць, чым жывуць іншыя музыканты, якога ўзроўню развіцця дасягнулі пэўныя жанры. Наш тэатр цяпер актыўна займаецца абменнымі гастролямі, і за апошні час мы пазнаёміліся з тэатральнымі калектывамі з Тулы, Смаленска, Калугі, Екацярынбурга, а ўвосень да нас прыязджае тэатр з Караганды. У Свярдлоўскім тэатры музычнай камедыі, напрыклад, класіка дастаткова традыцыйная, але адмыслова развіваецца жанр мюзікла. Найбольш уразіў мюзікл «Мёртвыя душы» (кампазітар А. Пантыкін, лібрэта паэта К. Рубінскага). Праца сучасных аўтараў — драматурга, кампазітара, рэжысёра, мастака і дырыжора — мела вынікам яркую дзею на высокім прафесійным узроўні. Я наведала ўсе спектаклі Калужскага драматычнага тэатра, дзе выразна выяўляюцца традыцыі рускай тэатральнай школы — на добрай закваске, ад старынкі, з адметнай мовай.

Сімфанічнае выкананне — гэта таксама важна, бо музыканты розных краін адрозніваюцца традыцыяй выканання, у кожнага дырыжора свой почырк. Самае моцнае ўражанне ў мяне было ад сімфоніі Іаганеса Брамса ў выкананні жанчыны-дырыжора з Японіі лэдзі Тамомі Нішымота. Твор зусім няпросты, але атрымаўся вельмі глыбокім, з адмысловай філасофіяй. Дырыжор правяла яго на выдатным узроўні.

**— Эмацыянальная, сэнсавая глыбіня ў музыцы — гэта ўсё падуладна дырыжору?**

— Так, бо дырыжор — генератар усяго працэсу: калі ён эмацыянальна зараджана, калі здольны аддаваць і мае пэўны настрой, то абавязкова натхніць музыкантаў. Ёсць прафесійныя аркестры, якія граюць самі і нават без дырыжора выканаюць усе нюансы, але эмацыянальная атмасфера заўсёды адчуваецца. Канечне, цікава паслухаць асаблівую інтэрпрэтацыю вядомых твораў: мне, напрыклад, вельмі спадабалася, як Уладзімір Співакоў на гастролях у Беларусі дырыжыраваў уверцюру-фантазію «Рамэа і Джульета» П. Чайкоўскага. Гэта была прыватная інтэрпрэтацыя, калі дырыжор дадае свае нюансы, адценні, незапланаваныя цэзуры, выконвае нейкія фрагменты больш лірычна ці, наадварот, больш актыўна. Гэта менавіта дырыжорская работа, якая многае прыўносіць у твор. Але нават калі твор выконваецца класічна, а эмацыянальны ўзровень вельмі высокі, гэта шмат чаго каштуе.

**— Лета — час гастроляў, чым адметны ён для музыканта?**

— На гастролі неабходна ездзіць кожнаму калектыву. Там іншая абстаноўка, іншая атмасфера, іншая сцэна, што выдатна мабілізуе ўсіх выканаўцаў. Гэта новыя адчуванні, няма закісання, калі ў аднолькавых умовах прадстаўляеш адну і тую ж дзею.

**— А як наконт працы з рознымі аркестрамі?**

— Апошнім часам мне даводзілася працаваць галоўным чынам з Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам, раней працавала з аркестрам і салістамі студыі ў БАМе, быў невялікі вопыт працы ў Нацыянальным акадэмічным вялікім тэатры оперы і балета. Натуральна, гэта іншая практыка. Да свайго аркестра прызвычайваешся, як і ён да цябе, музыканты добра разумеюць па непрыкметным жэсце, па кіўку. Калі прыходзіш у чужы аркестр, усё павінна быць гранічна дакладна і ясна, каб цябе зразумеў калектыў. Новы дырыжор — гэта цікава, як кожны новы кантакт: ты іх вывучаеш, яны — цябе. Змена дырыжора абуджае, мабілізуе ўвагу, музыканты пераключаюцца. Калі ж доўгі час з аркестрам працуе адзін чалавек — няма абвастрэння, усё аднастайна.

**— Што магло б уразіць іншаземца ў сучаснай беларускай музычнай культуры?**

— Я даволі вузка яе ведаю. З кампазітараў-класікаў я выконвала музыку Яўгена Глебава, блізкую мне меладызмам, няпростымі гармоніямі, тэмамі. Мне таксама давадзілася выконваць творы Г. Вагнера, А. Багатырова, У. Солтана, А. Мдзівані, некаторыя харавыя творы В. Кузняцова. А нядаўна мы разам з капэлай «Санорус» запісвалі кантату маладога беларускага кампазітара Кацярыны Шымовіч «Магчымасць быцця». Гэта таленавіты твор, які мае філасофскі змест, адмысловую мелодыку, розныя музычныя фактуры.

**— Разам з аркестрам капэлы «Санорус» вы наведваеце розныя гарады і мястэчкі Беларусі. Як успрымаюць школьнікі праграму «Музычны круіз»?**

— Гэта традыцыйная танцавальная музыка розных краін, яна падаецца мне даволі лёгкай. Але ў кожным горадзе сустрэчы са слухачамі праходзяць па-рознаму. Музыкант павінен працаваць у любых умовах, але аднойчы мне давялося спыніць канцэрт. Вядучая была маладая, не зусім дасведчаная, і ў яе не атрымалася адэкватна адрэагаваць на шум у зале. Тады я нагадала дзецям, што іх бацькі аплацілі білеты, значыць, яны хочуць, каб слухалі! І, прынамсі, з павагі да гэтага варта паводзіць сябе прыстойна. Праўда, праз некалькі хвілін усё было як раней. *(Смяецца.)* Але мне здаецца, што канцэрты ў школах — гэта добра, бо дзецям трэба знаёміць з сусветнай культурай, з інструментальнай музыкай, выхоўваць і развіваць.

**— Якія яркія моманты ўспамінаюцца на вашым творчым шляху?**

— Мне хутчэй хацелася б прыгадаць некаторых людзей, якія дапамагалі і бралі ўдзел у маім прафесійным станаўленні. У перыяд навучання ў Гомельскім музычным вучылішчы згадваю педагога па харавым дырыжыраванні Інесу Мурашку, якая «дала жыццё» маім рукам. Калі згадваць БАМ — вялікі паклон маэстра Віктару Роўдзу. Новы віток і далейшае развіццё маёй прафесіі дала праца з рэжысёрам Уладзімірам Бегмам у Херсонскім тэатры. Нельга не ўспомніць педагога, заслужанага дзеяча мастацтва, дырыжора НАВТа Мікалая Калядку. Усе гэтыя людзі апынуліся побач са мной у пераломныя перыяды прафесійнага жыцця.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**



*Фота з сайта БДАМТа*

**Даведка «ЛіМа»**

Марына Траццякова нарадзілася ў Гомелі. У 1988 г. скончыла Гомельскае музычнае вучылішча, у 1993 г. — Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі па спецыяльнасці «Харавое дырыжыраванне» (у 2005 г. — па спецыяльнасці «Оперна-сімфанічнае дырыжыраванне»). Прафесійную дзейнасць пачала ў Херсонскім абласным акадэмічным музычна-драматычным тэатры, дзе ў 1994 — 1997 гг. вяла ўвесь рэпертуар. У 1997 — 2010 гг. працавала дырыжорам Музычнай капэлы «Санорус». З Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатрам Марына Траццякова супрацоўнічае з 2005 г. У 2010-м становіцца дырыжорам тэатра. Вядзе спектаклі «Шахеразада» М. Рымскага-Корсакава, «Залатое кураня» В. Уланоўскага, «Асоль» У. Саўчыка ды іншыя. Музычны кіраўнік спектакляў «Мая жонка — ілгуння» В. Ільіна і В. Лукашова, «Містар Ікс» І. Кальмана.

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

*Слова краязнаўцы*



**Тамара Калініна, загадчык аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна, распавядае пра новы выставачны праект:**

— Да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у нашым аддзеле прайшла прэзентацыя дакументальна-публіцыстычнай экспазіцыі «Імёны, вернутыя з забыцця», якая будзе дзейнічаць да канца года. Мерапрыемства прысвечана салдатам Вялікай Айчыннай вайны, чые імёны вернутыя з нябыту дзякуючы магілёўскім даследчыкам ды іх калегам з рэспублік былога Савецкага Саюза.

Экспазіцыя складаецца з трох частак. Энцыклапедычныя, даведачныя, навукова-папулярныя выданні, у якіх увекавечаны імёны і подзвігі воінаў Вялікай Айчыннай, прадстаўлены ў раздзеле «Пакланімся подзвігу салдата».

20-гадоваму юбілею дзейнасці гісторыка-патрыятычнага пошукавага клуба «Віккру» абласнога цэнтра творчасці ўпраўлення адукацыі аблвыканкама прысвечаны раздзел «Мы жывём жыццём тых, хто загінуў за Айчыну». Дакументы, фотаматэрыялы, публікацыі з прэсы адлюстроўваюць шматгадовы досвед даследчыкаў. Паводле стваральніка і кіраўніка «Віккру», члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Барысенкі, мэта пошукаў — вызначэнне лёсу і ўвекавечанне памяці абаронцаў Магілёўшчыны, якія загінулі або прапалі без вестак у гады вайны, далучэнне моладзі да ўдзелу ў пошукавых экспедыцыях. Экспазіцыю дапаўняюць ваенныя рарытэты, знойдзеныя членамі клуба.

Юнакі і дзяўчаты з цікавасцю ўспрымаюць аповед Паўла Сысоя, кіраўніка групы ваенна-патрыятычнай рэканструкцыі «Апошні рубеж», пра ўдзел у здымках кінастужкі Фёдара Бандарчука «Сталінград».

Вялікую дапамогу магілёўскім пошукавікам аказваюць расійскія калегі з Масквы, Ніжняга Ноўгарада, Варонежа, Тулы, Кастрамы і іншых гарадоў. З Рыгорам Плахатнюком, варонежскім гісторыкам-даследчыкам, унукам салдата 388-га стралковага палка, які змагаўся на Буйніцкім полі ў ліпені 1941-га, бібліятэка супрацоўнічае з 2011 года. Дзякуючы расійскаму гісторыку фонд кніжніцы папоўніўся каштоўнымі краязнаўчымі матэрыяламі.

У раздзеле «Асобы пошуку» прадстаўлена некалькі нумароў расійскага часопіса «Военно-исторический архив», а таксама копіі дакументаў абаронцаў Магілёва, уліковыя карткі і фотаздымкі ваеннапалонных. Сярод іх — нарыс Р. Плахатнюка «Последнее письмо». У аснове — ліст Міхаіла Іспуганава, начальніка ваенна-тэхнічнага забеспячэння 388-га стралковага палка, які ён напісаў сваёй жонцы Кацярыне Рыгораўне ў г. Яфрэмаў 13 ліпеня 1941 г. з Магілёва, дзе разам са сваім палком змагаўся на Дняпроўскім рубяжы. Увазе наведвальнікаў прадстаўлена копія фрагмента арыгінала і фотаздымак М. Іспуганава, якія даслаў Р. Плахатнюк. Каштоўнасць гэтага дакумента ў тым, што тут адлюстраваны ваенныя, гістарычныя факты, якія адбываліся ў ліпені 1941 г. пад Магілёвам, а таксама названы прозвішчы 14 камандзіраў (многія — упершыню). Руплівая праца Плахатнюка з рознымі крыніцамі на працягу некалькіх гадоў урэшце вызначыла іх лёс.

*Музейны ўнікат*

# Люстэрка савецкай эпохі

**Выставачны праект «Back in BSSR / Зноў у БССР» рэалізуецца ў Музеі гісторыі горада Мінска і будзе доўжыцца да Дня горада. Ён арганізаваны сумесна з Беларускім саюзам дызайнераў, якому і належыць ідэя выстаўкі. Аснова экспазіцыі — калекцыя рарытэтных сацыяльных і рэкламных плакатаў, створаных у 1947 — 1987 гг.**







Увесь камплект узяты з фондаў Беларускага саюза дызайнераў. У мастацтве плаката арганічна спалучаюцца дух эпохі і эстэтычны пачатак: такія работы ўслаўлялі партыю, з'езды, выбары, суботнікі.

На выстаўцы можна пабачыць дзіцячыя плакаты, якія, прыкладам, расказваюць, як правільна пераходзіць вуліцу, як прытрымлівацца правіл бяспекі. Ёсць работы, прысвечаныя жаночай працы, пяцігодкам, спорту і прапагандзе здаровага ладу жыцця, піянерскаму і камсамольскаму руху. Прадстаўлены і выявы латарэйных квіткоў сярэдзіны мінулага стагоддзя.

Экспазіцыя змяшчае работы Рыгора Віткоўскага ды Арлена Кашкурэвіча («Грамадзяне! Пераходзьце вуліцу толькі на скрыжаванні», 1952), Яўгена Хаўруліна («Слава нашым працаўніцам!», 1985), Аляксандра Ваганава («Маё поле — мой гонар», 1986). Ёсць тут і плакаты Яўгена Вертаградава, Барыса Пармеева, Мікалая Гетмана, Пятра Калініна ды іншых майстроў савецкага плаката.

Аздабляюць экспазіцыю тагачасныя побытавыя прыборы (радыёла, швейная машынка, чайнікі, прасы), сеткі-авоські, прадметы абутку і адзення, школьныя прылады, цацкі і многае іншае, што ў сукупнасці ўзнаўляе карціну паўсядзённага жыцця савецкіх людзей.

**Яна ЯВІЧ**

# Занатоўваць жыццё

Юбілейны творчы вечар фотажурналіста Наталлі Купрэвіч «Фотограф щёлкает…» адбыўся днямі ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа.

Павіншаваць яе прыйшлі калегі ды сябры: старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, галоўны дырэктар радыё «Беларусь» паэт Навум Гальпяровіч, паэтэса Ніна Загорская, галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» Таццяна Сівец, мастакі Сяргей Салохін і Дзмітрый Сарока, вядучы фотакарэспандэнт аддзела фотаілюстрацыі Выдавецкага дома «Звязда» Яўген Пясецкі. Ад супрацоўнікаў музея Наталля Юр'еўна атрымала ў падарунак парасон ды кнігу «Якуб Колас у думках, у сэрцах, у песнях», якую ўклаў сын песняра Міхась Міцкевіч.

«Фотограф щёлкает…» — словы з песні Булата Акуджавы. Такую ж назву атрымаў і фотапраект Н. Купрэвіч, прэзентаваны падчас вечарыны. Праўда, да фотажурналістыкі Наталля Юр'еўна прыйшла не адразу. Хаця фота- і кіназдымкай захаплялася з маленства. Інжынер лясной гаспадаркі, яна працавала ва ўстанове «Леспраект», Інстытуце батанікі НАН Беларусі, міністэрствах прыродных рэсурсаў ды аховы навакольнага асяроддзя, лясной гаспадаркі. Скончыла аспірантуру Інстытута батанікі НАН Беларусі. Цікавіцца мастацтвам, фальклорам, краязнаўствам. А фотажурналістыкай пачала займацца як пазаштатны карэспандэнт "Краязнаўчай газеты" — друкаванага органа Беларускага фонду культуры.

Акрамя фотаработ, у творчым арсенале Н. Купрэвіч — фотаальбом «Сяргей Салохін. Жывапіс» (2012), а таксама манаграфіі ды артыкулы. Наталля Юр'еўна асвятляе культурныя мерапрыемствы, што ладзяцца музеямі, бібліятэкамі краіны. У яе аб'ектыў трапіў абрад «Калядныя цары», што праводзіцца ў вёсцы Семежава Капыльскага раёна, славуты Ганненскі кірмаш у Зэльве, коннае шоу.

**Дана ХОДНІЧ**

# Сурвэткі — бы кветкі

Аб'ёмныя кветкавыя кампазіцыі з… нітак можна ўбачыць на выстаўцы «Загадкі матухны прыроды» ў Музеі гісторыі горада Гомеля. У экспазіцыі прадстаўлены работы мясцовай мастачкі Алены Ціханчук.

Амаль дваццаць гадоў таму адбылася яе першая выстаўка ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Францыска Скарыны. Цяга да рукадзелля перайшла Алене ад маці. «Вобразы кветак з дзяцінства западалі ў самае сэрца, — распавяла мастачка. — Асабліва на вышытых з любоўю карцінах, абрусах, сурвэтках. Кветкі глядзелі адусюль: з кадак на падлозе, з гаршкоў на акне, з кветніка перад хатай».

Жаданне паўтарыць прыгажосць жывых колераў прывяло мастачку да стварэння вырабаў: сурвэтак, прыхватак, пано, якія яна стварае пры дапамозе кручка і нітак. А яшчэ Алена Ціханчук піша вершы. У полі зроку — прырода, рэлігія, грамадства і, вядома ж, кветкі.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Пленэр між дзвюх рэк

Горад Рагачоў, быццам велізарны карабель з «капітанскім мастком» — Замкавай гарой, ужо шмат стагоддзяў акаляюць дзве ракі: левы яго «борт» лашчыць магутны Днепр, правы — далікатная Друць.

Тут бываў Напалеон Орда — мастак, кампазітар, лінгвіст, аўтар мноства графічных работ з краявідамі сядзіб і палацаў, якія ствараў падчас сваіх вандровак па Еўропе і Афрыцы. Адзін з такіх твораў — «Сядзіба дваранiна Уладзіслава Сянажэнскага», датаваная 1877 годам, — вынік знаходжання ў Рагачоўскім павеце.

У Рагачове нарадзіўся сусветна вядомы мастак Анатоль Каплан (1903 — 1980), выпускнік Ленінградскага вышэйшага мастацка-тэхнічнага інстытута. Яго творы ўключаны ў экспазіцыю Рагачоўскага краязнаўчага музея. У Першых міжнародных капланаўскіх чытаннях (2011), арганізаваных і праведзеных установай, узялі ўдзел вядомыя мастацтвазнаўцы і музейныя работнікі з Расіі ды Беларусі. А ў кастрычніку 2012-га яго супрацоўнікі ўдзельнічалі ў І Міжнародным форуме музеяў (Гродна), дзе прадставілі экспазіцыю «Рагачоў і яўрэйскія мястэчкі ў творчасці А. Л. Каплана».

Пра тутэйшыя карані па мацярынскай лініі распавядаў Уладзімір Караткевіч. Пісьменнік часта прыязджаў сюды да сваякоў, падоўгу жыў у іх і плённа працаваў. Тут былі напісаны яго выбітныя творы «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Каласы пад сярпом тваім», аповесць «Чазенія».

А сёлета ў межах міжрэгіянальнага фэстывалю «Світанкі над Дняпром» адбыўся Х Міжнародны пленэр «Рагачоўскія плёсы», прысвечаны памяці ахвяр Вялікай Айчыннай, у якім удзельнічаў і аўтар гэтых радкоў. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэтэса Вікторыя Смірнова прадставіла ўвазе гасцей праект «Паэтычны вернісаж», дзе выказала ўражанні ад маіх карцін.

Удзельнікаў пленэру з эцюднікамі і палотнамі можна было сустрэць у славутых кутках Рагачова, каля Мемарыяла малалетніх вязняў фашызму і ў старым парку вёскі Чырвоны Бераг, на святочных вуліцах Бабруйска і ў іншых маляўнічых месцах. Завяршыўся пленэр мастацкай выстаўкай.

**Генадзь ГОВАР**

*Заслаўе — 2014*

# Бруяць мастацкія крыніцы

**У часы Кіеўскай Русі ў Заслаўі была распаўсюджана коўка адмысловых рэчаў з металу. Працавалі кавалі розных спецыяльнасцей: замочнікі, збройнікі, ювеліры, гравёры. На тэрыторыі «Замэчка» пры раскопках знойдзены нажы, ключы, металічныя дэталі ад наборнага пояса, які мог належаць княжацкаму дружынніку, бронзавае наверша булавы, баявыя сякеры, кальчугі...**


Фота Анатоля Клешчука
Узорны ансамбль цымбалістаў «Глорыя» Заслаўскай школы мастацтваў. Кіраўнік — Ларыса Саўчук.

Кавальскае рамяство асабліва актыўна развівалася напрыканцы XV ст., калі пачалося будаўніцтва каменных палацаў, замкаў, цэркваў. Новая стылёвая архітэктура патрабавала аздобы. Каваны метал прысутнічаў у інтэр'ерах і экстэр'ерах пабудоў. І сёння, блукаючы па старасвецкіх вуліцах, заўважаем адмысловую каваную браму ці веснічкі, тапчан альбо заслончык.

Заслаўская кафля — архітэктурна-дэкаратыўная кераміка XIV — XVIII стст., знойдзеная пры археалагічных раскопках горада. Выяўлена каля 2000 цэлых вырабаў і фрагментаў, а таксама рэшткі адзінаццаці кафляных печаў XVI — XVII стст. Найвышэйшага росквіту майстэрства кафляроў дасягнула ў другой палове XVI — першай палове XVII ст. Асаблівай вытанчанасцю адрозніваліся кафлі з гербамі ўладальнікаў горада, а таксама партрэтныя.

Калі сёння мясцовых кавалёў і ганчароў можна па пальцах пералічыць, дык самадзейных спевакоў, музыкаў, танцораў пералічыць наогул немагчыма. Аднак перш чым расказаць пра іх, варта згадаць, што ў 1920 — 1930 гг. у Заслаўі існавала ажно тры тэатры. Першы — пры пагранатрадзе № 12, другі (калгасна-саўгасны) перабазіраваўся сюды з Барысава. Быў і яўрэйскі тэатр ці, хутчэй, драмгурток пры яўрэйскім таварыстве.

У Заслаўі часта выступала трупа Уладзіслава Галубка. Пасля спектакля ладзіліся цудоўныя канцэрты, дзе моладзь магла паспяваць і патанчыць з акцёрамі.

А цяпер вернемся ў сучасную музычна-песенную Заслаўшчыну. Таленавітая мастацтвазнаўца Таццяна Гаранская ў пачатку 1980-х гадоў арганізавала фальклорна-этнаграфічныя святы — «Купальскае вогнішча», «Каляды», «Гуканне вясны». У гэты час узнікла ідэя стварэння мясцовага спеўнага гурту, якому крыху пазней далі назву «Заслаўскія летуценнікі». Ён стаў удзельнікам многіх рэспубліканскіх этнаграфічных мерапрыемстваў, пераможцам прэстыжных фестываляў і конкурсаў. У рэпертуары з'явіліся песні Заслаўшчыны.

У Заслаўскім гарадскім Доме культуры «Світанак» працуе шмат творчых калектываў, створаны ўмовы для самарэалізацыі і развіцця мастацка-эстэтычнага густу. Сярод іх — эстрадная студыя для дарослых, дзіцячая эстрадная студыя «Канфеці», вакальныя ансамблі «Забава», «Залаты ўзрост», дзіцячыя танцавальныя гурты, школа ўсходняга танца, тэатральныя гурткі «Эцюд», аэробікі, клуб для пажылых людзей «Вясёлка». Высокае званне «народны» прысвоена ансамблям «Чарніца», «Кірмаш», «Рагнеда», духавому аркестру.

Самадзейныя артысты ўдзельнічалі ў Міжнародным фальклорным фестывалі «Жыцень», Міжнародным фестывалі ірландскай музыкі, танца і тэатра, рэспубліканскім фэсце «Звіняць цымбалы і гармонік», ва Усерасійскіх фестывалях дзіцячай народнай творчасці «Кубанскі казачок», абласным «Напеў зямлі маёй», многіх іншых прэстыжных музычных мерапрыемствах. Іх выступленні адзначаны ўзнагародамі.

У Заслаўі любяць песню, музыку, трапнае беларускае слова. Сярод апантаных аматараў — былая настаўніца Канстанцыя Шаховіч, якая і на пенсіі не сядзіць склаўшы рукі. Пайшла працаваць у гісторыка-культурны музей-запаведнік «Заслаўе». Прагная да ведаў і новага, яна штудзіравала падручнікі па гісторыі, каб быць у тэме і здаць экзамен на экскурсавода. Паспрабавала сябе, вельмі паспяхова, у ролі батлейшчыцы.

Будучыя знакамітыя спевакі, музыкі, танцоры яшчэ вучацца ў дзіцячай школе мастацтваў, але ўжо сёння пра іх ведае ледзь не ўся Беларусь. Узорны ансамбль цымбалістаў «Глорыя» — лаўрэат рэспубліканскіх фестываляў «Залатая пчолка» і «Сярэбраны звон цымбалаў». Узорны ансамбль скрыпачоў MEZZO — уладальнік гран-пры абласнога конкурсу скрыпачоў, дыпламант адкрытага фестывалю-конкурсу джазавай і эстраднай музыкі. Прызамі і дыпломамі адзначаны выступленні дзіцячых ансамбляў трубачоў, баяністаў, вакалістаў, харэографаў. Дарэчы, апошнія бралі ўдзел у міжнародным турніры па спартыўных танцах і ў рэспубліканскім конкурсе «Вясеннее танга». Шмат творчых здабыткаў і на рахунку выкладчыкаў. Народны ансамбль інструментальнай музыкі «Каданс» — лаўрэат VII Рэспубліканскага конкурсу творчых работ, фестываляў «Напеў зямлі маёй». Класічны квартэт і інструментальны ансамбль сям'і Шкурскіх — лаўрэаты рэспубліканскага фестывалю «Жывіце ў радасці».

Ніводнае свята, фэст, баль-маскарад у Заслаўі не праходзяць без выступленняў выхаванцаў і выкладчыкаў школы мастацтваў. Сёння на трох аддзяленнях займаюцца амаль 450 выхаванцаў, з іх 280 — на музычным.

Нельга не прыгадаць фестывалі камернай музыкі, якія ладзяцца ў Заслаўі з 2001 г. пад кіраўніцтвам прафесара Міхаіла Фінберга і з удзелам яго знакамітага аркестра. Прапагандаваць культурныя традыцыі старажытнага горада, адкрываць новыя старонкі яго мастацкай біяграфіі, вяртаць на радзіму забытыя імёны музыкантаў і кампазітараў мінулых стагоддзяў — галоўная задача гэтых фэстаў.

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ**

# Памяці Мінскага гета


Лазар Ран. «Музыкі Мінскага гета».

**Выстаўка «Памяці Мінскага гета» працуе ў Нацыянальным гістарычным музеі. Праект, створаны па ініцыятыве члена Мінскага рэгіянальнага таварыства калекцыянераў Андрэя Філатава, прысвечаны ўшанаванню памяці вязняў і прымеркаваны да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

У межах выстаўкі прадстаўлены экспанаты са збораў Андрэя Філатава, Музея гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі і Нацыянальнага гістарычнага музея. Аснову экспазіцыі склалі работы прадстаўніка Віцебскай мастацкай школы, паплечніка і сябра Марка Шагала Лазара Рана.

Ушанаванне памяці вязняў гета, дзе загінула яго сям'я, стала галоўнай тэмай творчасці Л. Рана: гэта выбітны графік, жывапісец і скульптар. На выстаўцы прадстаўлена два дзясяткі афортаў з альбома «Мінскае гета 1941 — 1944», афорты з серыі «Яўрэйскія пісьменнікі», бронзавыя барэльефы, створаныя для мемарыяла «Яма», пастэль «Музыкант», жывапісная праца «Музыкі Мінскага гета». Работы мастака дапоўнены прадметамі рэлігійнага культу са збораў Нацыянальнага гістарычнага музея, а таксама фрагментам Торы з калекцыі Андрэя Філатава.

Інфармацыйная частка праекта падрыхтаваная Музеем гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі. На шасці стэндах падаюцца звесткі з гісторыі стварэння гета, найбуйнейшага па колькасці вязняў на тэрыторыі СССР пасля Львоўскага. Падрабязна апісана дзейнасць падпольнай арганізацыі гета, сямейнага партызанскага атрада Шолама Зорына, змешчаны фота іх удзельнікаў. Сярод экспанатаў — выданні, прысвечаныя гета, ліст байцу на фронт ад 8 жніўня 1944 г. цудам уратаваных сясцёр Левіных, партызанскі дзённік Лялі Брук і адзіная захаваная лата вязня Міры Левінай.

Цікавасць Андрэя Філатава, калекцыянера, маладога эканаміста-менеджара, мінчука ў трэцім пакаленні, да тэмы гісторыі Мінска і Мінскага гета невыпадковая. Калекцыяніраваннем ён захапіўся з дзяцінства. Дзядзька, вайсковы гісторык Андрэй Кісліцын, абудзіў у пляменніка інтарэс да даследаванняў. Артэфакты Андрэй збірае ўжо 20 год і да свайго хобі ставіцца адказна і грунтоўна: большасць рэчаў навукова атрыбутавана.

Першая выстаўка, дзе экспанаты прыватнага збору былі прадэманстраваны шырокаму колу гледачоў, збіралася на працягу васьмі гадоў. Задумана ў памяць прабабулі Ганны Эйтвід, дом якой падчас Вялікай Айчыннай знаходзіўся побач з Мінскім гета, і прадзеда Пятра Эйтвіда, які прапаў без вестак у 1942-м. Успамінамі пра Ганну Платонаўну і жыццё ў акупацыі падзялілася яе дачка, бабуля Андрэя — Станіслава Кісліцына.

Калі пачалася вайна, Стасі, малодшай у сям'і, было 7 гадоў. Падчас першай бамбёжкі дом быў зруйнаваны, і маці з дзецьмі перабралася ў драўляную хату — дом № 20 па 2-м Апанскім завулку, дзе і пралягала мяжа Мінскага гета. Таму жахлівыя падзеі адбываліся на вачах...

Шмат выпрабаванняў выпала на долю гэтай сям'і. Па даносе суседкі, якая супрацоўнічала з паліцыяй, яе забралі ў гестапа. Дзеці засталіся адны. Расстрэл здаваўся непазбежным. Але старэйшая сястра звярнулася па дапамогу да знаёмай настаўніцы нямецкай мовы, і тая прадставіла ў гестапа ліст, дзе паведаміла, што Ганна Платонаўна — дачка нашчадкаў паволжскіх немцаў, якія яшчэ пры Кацярыне II асвойвалі новыя расійскія землі. Дзякуючы гэтаму маці выпусцілі на волю.

Другі смяротна небяспечны выпадак адбыўся, калі Стася з суседкай панеслі прадукты гамбургскім яўрэям у Зондэргета, мяжа якога праходзіла па вуліцы Рэспубліканскай. Як толькі яны наблізіліся да гэтых людзей, ахова пачала страляць. Выратаваў роў, куды яны хуценька скаціліся, кулі прасвісцелі над галавою... Пакінулі схованку толькі тады, калі стральба змоўкла. Аднак, нягледзячы на рызыку, перадавалі яўрэйскім дзецям харчы. Адным разам Стасю заспелі за такім заняткам і забралі за дрот. Неймаверных высілкаў каштавала Ганне Платонаўне даказаць, што гэта яе дачка.

Пасля вайны Станіслава Пятроўна 53 гады прысвяціла працы ў галіне гандлю. Цяпер у жанчыны пяцёра ўнукаў. Яны заўсёды з цікавасцю слухаюць бабуліны аповеды пра ваенныя гады і ўзнаўленне Мінска.

**Наталі КУПРЭВІЧ**

# Класіка Персіі ды авангард Ірана

**Выстаўка сучаснай іранскай мініяцюры і мастацтва, арганізаваная Культурным прадстаўніцтвам Пасольства Ісламскай Рэспублікі Іран у Рэспубліцы Беларусь, адкрылася ў Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага. Асноўную частку экспазіцыі складаюць работы іранскіх мастакоў-мініяцюрыстаў Бехзада Базаргі ды Махмуда Фаршчыяна.**



*Клара Абкар «Шумная вечарынка» (мініяцюра на слановай косці).*



*Дэкаратыўнае пано.*

Бехзад Базаргі, член Асацыяцыі іранскіх мастакоў, з дзяцінства захапляецца літаратурай і жывапісам. На фарміраванне яго эстэтычнага густу паўплывала творчасць класікаў персідскай паэзіі Хафіза і Саадзі, а таксама майстроў мініяцюры Камаледзіна Бехзада і Рэзы Абасі. У творчасці Б. Базаргі прынцыпы і стылі традыцыйнай іранскай мініяцюры ўдала спалучаюцца з сучаснымі авангарднымі тэндэнцыямі. Сярод прадстаўленых работ — «Анёл», «Дэрвіш», «Танцы дэрвішаў», «Конь-лінія», «Удзячнасць» ды іншыя.

Махмуд Фаршчыян пасля заканчэння Ісфаханскай акадэміі вытанчаных мастацтваў выправіўся ў Еўропу, дзе заняўся вывучэннем выяўленчага мастацтва Захаду. Але дамінуюць у яго творчасці нацыянальныя традыцыі персідскай мініяцюры і ўсходні містыцызм. М. Фаршчыян узбагаціў класічную персідскую мініяцюру новай жывапіснай тэхнікай і сюжэтамі. Экспазіцыя дэманструе калекцыю аўтарскіх копій яго работ. Для палотнаў, у ліку якіх — «Чатыры стыхіі», «Бясконцыя гарызонты» і г. д., характэрны паўнаколерныя, яркія выявы людзей, птушак, кветак. Работы майстра аздабляюць як калекцыі музеяў свету, так і прыватныя зборы. А ў 2001-м іранская Арганізацыя культурнай спадчыны стварыла музей Махмуда Фаршчыяна ў комплексе Саадабад (Тэгеран). З творчасцю Б. Базаргі і М. Фаршчыяна знаёмыя жыхары Расіі, ЗША, Тайланда, Філіпін.

Экспазіцыя змяшчае таксама мініяцюры іншых іранскіх творцаў: Махамада Таджвідзі, Акбара Таджвідзі, Хасейна Алтадзі, Клары Абкар і г. д. Дапаўняюць выстаўку фотаработы з цыкла «Іран вачыма беларускіх студэнтаў». Можна пабачыць творы Ганны Цвірбут, Паўла Сторчака, Дзмітрыя Корзунава, Таццяны Паляшчук, Алесі Савінай, Наталлі Патройнай — найлепшых слухачоў курсаў персідскай мовы пры Культурным прадстаўніцтве Пасольства Ірана, запрошаных Пасольствам да ўдзелу ў адукацыйных паездках у Іран. Ёсць тут узоры іранскай каліграфіі, керамікі, разьбы па дрэве і шмат што іншае. Адкрыццё выстаўкі суправаджалася традыцыйнай іранскай музыкай.

**Яна ЯВІЧ,**
**фота Кастуся Дробава**

# Пабачым знакамітых вершнікаў?

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва працуе выстаўка работ скульптара Сяргея Бандарэнкі «Конь і яго рыцар». Экспазіцыя, прадстаўленая шырокай публіцы менавіта ў год Каня па ўсходнім календары, сталася своеасаблівым адказам на адкрыццё ў Віцебску вялікай скульптурнай кампазіцыі творцы, прысвечанай князю Альгерду.**



*«Маршал Жукаў».*



*«Усяслаў Чарадзей».*

Цэнтральная частка сталічнай выстаўкі — мадэль і віртуальная прэзентацыя віцебскага манумента. Сюды ўключаны таксама іпалагічныя («конныя») работы, што ўвасабляюць герояў розных эпох, сярод якіх — Усяслаў Чарадзей, Міндоўг, Сімон Балівар і іншыя знакамітыя вершнікі. У экспазіцыі ёсць скульптуры «Дзяўчынка і цягнічок», «Кінг Артур», «Увечары» і г. д.

На першым паверсе музея размясцілася «рыцарская» зала, на другім арганічна спалучыліся жаночая і марская тэмы: так аўтар увасабляе ў чалавечым абліччы неабдымную прастору Сусветнага акіяна. У ліку работ — «Марскі конь», «Спакуса», «Ракавінка», «Афрадыта».

Падчас рэалізацыі выставачнага праекта мяркуецца інтэрактыўная праграма з дыскусіямі ды лекцыямі. У дзень адкрыцця ў музеі была створана «прастора для імгненнай рэакцыі»: наведвальнікам прапаноўвалася пісьмова адказаць на пытанне, помнікі якім героям патрэбны Беларусі акрамя тых, што ўжо ўсталяваныя.

Мастацтвазнаўца Таццяна Бембель, куратар выстаўкі, упэўнена: без цеснай сувязі мастака і грамадства развіццё мастацтва немагчымае. Сяргей Бандарэнка сваімі творамі дапамагае масаваму гледачу больш поўна і глыбока зразумець вобразны, эмацыянальны свет скульптур.

**Арына КРАЙКО**

### Даведка «ЛіМа»

Сяргей Бандарэнка нарадзіўся ў Мінску ў 1956 годзе. Пасля заканчэння мастацкай школы да 1981 г. вучыўся ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце, а наступныя чатыры гады практыкаваўся ў творчых майстэрнях Акадэміі мастацтваў СССР у Мінску пад кіраўніцтвам Заіра Азгура. Першыя работы экспанаваліся ў японскім горадзе Сапара на Сусветнай выстаўцы ЭКСПА ў 1972 г. З 1985-га — сябар Беларускага саюза мастакоў, з 2003-га — ганаровы член Кітайскай акадэміі мастацтваў. У яго арсенале — бронзавыя, драўляныя, керамічныя скульптурныя творы. Работы захоўваюцца ў музейных зборах і прыватных калекцыях многіх краін свету.

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2315.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 14.08.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3203.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686